КУЛЬТУРА ▸ ГРАМАДСТВА ▸ ЭКАНОМІКА ▸
ЛЮДЗІ ▸ ПАДЗЕІ ▸ ФАКТЫ

◂ № 35 (307) ◂ 14 верасня ◂ 2012 г.
www.novychas.org

# Новы Час

ISSN 2218-2144



**НІНА БАГІНСКАЯ**

Стар. 6

**АЛЕСЬ ПУШКІН ПРОСІЦЬ ДАПАМОГІ**

Суд над мастаком Алесем Пушкіным у Смаргоні перанесены на 24 верасня. Мастак просіць вядомых адвакатаў выступіць у ягоную абарону

Стар. 6

**НЕЗАЛЕЖНАЯ БАВАРЫЯ**

Палітычным бестселерам у Германіі стала кніга, аўтар якой заклікае да стварэння незалежнай баварскай дзяржавы

Стар. 13

**ВОСТРЫЯ ГРАНІ ВЫЗВАЛЕННЯ**

Стар. 14

**ЧЫТАЙЦЕ Ў НАСТУПНЫМ НУМАРЫ!**

**НЯПЭЎНАСЦЬ ЖЫЦЦЯ**

Нарыс Сяргея Нікалюка з цыклу «Азбука паліталогіі»

▸ **КАЛОНКА РЭДАКТАРА**

# СУСВЕТНЫЯ СМІ І МЫ

## У КАНТЭКСЦЕ 64-ГА СУСВЕТНАГА ГАЗЕТНАГА КАНГРЭСУ І 19-ГА МІЖНАРОДНАГА ФОРУМУ РЭДАКТАРАЎ

*Аляксей КАРОЛЬ*




**Кангрэс і форум — адна падзея, а не дзве. Ці, кажучы трапнай рэкламнай прымаўкай, два ў адным. WAN-IFRA (Сусветная асацыяцыя газет і выдаўцоў навін) аб'ядновае болей за 800 тысяч друкаваных выданняў, 13 тысяч анлайн і 3 тысячы кампаній са 120 краін свету.**

### Фармат

Выдаўцы і журналісты разам — гэта лагічна: адна сфера дзейнасці, адзін прадукт і адзін набор інструментаў для яго вырабу. Мэты і задачы, што супадаюць, хаця і істотна адрозніваюцца ў матывацыі: бізнэс — для выдаўцоў, кантэнт — для рэдактараў і журналістаў. Аднак і тут вектары інтарэсаў сыходзяцца ў адной кропцы — на чытацкай аўдыторыі, якая адначасова фарміруе медыйны рынак.

Маштаб кангрэсу — за тысячу ўдзельнікаў са 103 краін свету з усіх кантынентаў. Найбольш журналістаў і выдаўцоў было ад Украіны (135) і Расіі (76). Прафесійны змест — абмен ідэямі, вопытам і тэхналогіямі, асэнсаванне сябе ў сістэме каардынатаў сусветных СМІ, зверка маршрутаў развіцця, наладжванне сумесных праектаў. Палітычны прэстыж кангрэсаў WAN-IFRA, акрамя іншага, выяўляецца фактам удзелу ў цырымоніі іх адкрыцця прэзідэнта той краіны, якая прымае кангрэс.

Пазіцыя — адданасць прынцыпам дэмакратыі і свабоды слова, служэнне грамадству, а не ўладам і карпаратыўным групам. Менавіта з гэтай прычыны месцам правядзення кангрэса і форуму заўсёды абіраюцца толькі свабодныя краіны. Але ўсімі магчымымі сродкамі заахвочваецца ўдзел прадстаўнікоў незалежных СМІ з несвабодных краін. Галоўная прэмія WAN-IFRA носіць назву «Залатое пяро Свабоды». Яна не ўтрымлівае грашовага складніку, але мае выключную маральную вагу.

У гэтым годзе лаўрэатам прэміі стала мексіканская журналістка і пісьменніца Анабэль Эрнандэс, якая апублікавала серыю нарысаў і выдала кнігу аб злачынствах наркакартэляў, якія, на яе выснову, у Мексіцы цалкам зрасліся з уладамі. У чуйнай цішыні зала слухала незвычайную па моцы слова і эмацыйнай напружанасці прамову Анабэль. Ад рук наркамафіі ў Мексіцы з 2006 года загінула 44 журналіста, у тым ліку 5 — у гэтым.

У пачэсным шэрагу лаўрэатаў «Залатога пяра» значыцца і Беларуская асацыяцыя журналістаў. У 2010 годзе ў сусветным газетным кангрэсе WAN-IFRA прымалі ўдзел два беларускіх журналіста, у гэтым — сем.

### Свабода слова

Менавіта праблема абароны і пашырэння рамак свабоды слова і вызначае грамадскую вагу кангрэса. Вострыя грані гэтай праблемы з відавочнасцю выявіліся і на сёлетнім кангрэсе ў Кіеве.

Ужо на адкрыцці, падчас прывітальнай прамовы прэзідэнта Украіны Віктара Януковіча ў залі ўзняліся больш за дзясятак украінскіх журналістаў з руху «Стоп цэнзура» з плакатамі аб збіцці рэпарцёраў ва Украіне, аб выдаленні з кабельных сетак тэлеканала TVi, аб закрытым судзе над забойцамі журналіста Георгія Гангадзэ і аб узмацненні палітычнай цэнзуры на тэлебачанні. Да рэдактаркі «Украінскай праўды» (той самай газеты, дзе працаваў калісьці Гангадзэ) кінуўся ахоўнік і вырваў плакат. Бараніў жа ўкраінскую каляжанку, захіляючы сабой, беларускі журналіст Павел Шарамет, які апынуўся побач. Пазней арганізатары кангрэсу выбачаліся за інцыдэнт, а кіраўніцтва дзяржаховы адхрысціцца ад датычнасці да падзей у Кастрычніцкім палацы: маўляў, там працавалі прыватныя ахоўныя структуры.

Пакуль яшчэ, як тлумачылі беларускім калегам украінскія журналісты, наступ на дэмакратычныя правы ва Украіне носіць прыхаваны, паўзучы характар. І пакуль яшчэ не набыў незваротную спеласць. Пакуль яшчэ палітычная сітуацыя пярэстая, а сіла супраціву, асабліва ў заходняй частцы Украіны, дастаткова моцная.

Ці не таму пра спрыянне свабодзе СМІ мусіў гаварыць рытуальныя словы з трыбуны кангрэсу і Віктар Януковіч, гэтак жа адпрэчваўся ад праўладнай ангажаванасці віцэ-прэзідэнт Украінскай асацыяцыі выдаўцоў Барыс Ложкін.

Свае параўнальныя фарбы ў палітру барацьбы за свабоду слова дадала сустрэча журналістаў незалежных СМІ з Беларусі, Гватэмалы, Бірмы (М'янмы), Зімбабве, Замбіі. Розныя краіны і кантыненты, адрозныя традыцыі і менталітэт, але дзіўнае падабенства ў тактыцы і метадах падаўлення незалежных СМІ дыктатарскімі рэжымамі: напады на рэдакцыі, арышты, забарона газет, эканамічны ціск, выгнанне ў эміграцыю.

З пэўнымі, зразумела, мясцовымі асаблівасцямі. Так, рэдакцыю самай уплывовай газеты ў Зімбабве, якую выдаваў саратнік Мугабэ, узарвалі, калі журналіст перайшоў у апазіцыю да прэзідэнта. Пасля некалькіх арыштаў і нападаў рэдактар уцёк з краіны і ўжо шмат год выдае газету за мяжой, тыражом ад 60 да 250 тысяч асобнікаў, і перапраўляе ў сваю краіну.

Але большасць эмігранцкіх СМІ працуе на свае краіны ў лічбавым фармаце. Дастаткова эфектыўна, з высокім ахопам карыстальнікаў. Знакам надзеі за нашым невясёлым сталом прагучала гісторыя журналіста з М'янмы, які толькі нядаўна, праз 24 гады эміграцыі, урэшце змог вярнуцца на радзіму, дзе рэжым пад ціскам унутраных і знешніх абставін змушаны быў адмяніць ці не ўсе абмежаванні на дзейнасць СМІ.

**Працяг на стар. 5** ▸

## ВЫБАРЫ

### ВІЦЕБСК. Кандыдатку зноў абшукалі на беларускай мяжы

Кандыдатка па Віцебскай-Горкаўскай акрузе №17 Алена Фаміна, прыхільніца Мікалая Статкевіча і сябра аргкамітэту па стварэнні сацыял-дэмакратычнай партыі «Народная Грамада», 12 верасня ехала ў Вільню. На беларускім баку мытнікі правяліператрус яе рэчаў.

Алена Фаміна паведаміла, што рэчы пераглядалі доўга і пільна: праз гэта нават быў затрыманы цягнік. Нічога падазронага ў яе не знайшлі, але спадарыня Фаміна не ўпэўненая, што вярнуцца з Вільні ёй удасца без падобных «прыгодаў». Бо гэта ўжо другіператрус паводле ініцыятывы беларускіх мытнікаў за апошнія два тыдні.

Мінулым разам кандыдатку ў дэпутаты парламенту абшукалі на польска-беларускім памежжы, калі яна вярталася з Варшавы ад сына. Мытнік правяліператрус яе рэчаў спачатку ў цягніку, потым прымусілі выйсці ў памяшканне мытні і абшукалі яшчэ раз. Урэшце правялі і асабісты дагляд, які Алена Фаміна палічыла прыніжэннем уласнай годнасці. Пры гэтым супрацоўнікі мытні некалькі разоў прапаноўвалі ёй «добраахвотна задэклараваць» нейкую вялікую суму грошай, якую, паводле іхных меркаванняў, Алена Фаміна магла патаемна везці праз мяжу. Але ні грошай, ні якіх-небудзь іншых недазволеных да перавозу рэчаў у яе не знайшлі.

### БРЭСТ. Перашкоды падчас агітацыі

Не паспелі апазіцыйныя прэтэндэнты на дэпутацкі мандат станоўча ацаніць вынікі першых агітацыйных пікетаў у розных месцах абласнога цэнтру, як з'явіліся звесткі пра нежаданне ўладальнікаў гандлёвых аб'ектаў размяшчаць у сваіх крамах перадвыбарчыя плакаты.

У прыватнасці, з гэтым сутыкнулася кандыдат у дэпутаты па Брэсцкай-Заходняй выбарчай акрузе №1, старшыня гарадской арганізацыі Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада) Ганна Канюс. У сваёй заяве ў акруговую выбарчую камісію яна паведаміла пра тое, што кіраўніцтва крамы «Санта», што належыць прадпрыемству «Санта Імпэкс», якім кіруе вядомы бізнэсовец Аляксандр Машэнскі, адмовілася размяшчаць перадвыбарчы плакат з інфармацыяй пра Канюс у сваім гандлёвым аб'екце, што знаходзіцца ў брэсцкім мікраёне Дуброўка. У лісце ў выбаркам нагадваецца, што такім чынам парушаецца выбарчае заканадаўства Рэспублікі Беларусь, бо не ўсе кандыдаты маюць магчымасць інфармаваць жыхароў акругі пра сваю выбарчую праграму.

З аналагічнымі цяжкасцямі сутыкаюцца і іншыя кандыдаты ад апазіцыі, якія не могуць змясціць свае інфармацыйныя матэрыялы ў гандлёвых кропках побач з плакатамі вылучэнцаў, што маюць падтрымку з боку мясцовых уладаў.

### ШКЛОЎ. Кастусёў падаў скаргу ў ЦВК

Кандыдат у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў па Шклоўскай выбарчай акрузе №90, намеснік старшыні Партыі БНФ Рыгор Кастусёў 11 верасня падаў скаргу ў Цэнтрвыбаркам «на незаконнае выкарыстанне адміністрацыйнага рэсурсу кандыдатам у дэпутаты Агеевым А.В.».

Як патлумачыў Кастусёў, чыннікам для падачы скаргі ў Цэнтрвыбаркам паслужыла тое, што акруговая камісія Шклоўскай выбарчай акругі №90 да гэтага часу не разгледзела сумесную скаргу кандыдатаў у дэпутаты Рыгора Кастусёва і Зінаіды Мілешчанкі на тое, што кандыдат у дэпутаты па гэтай жа акрузе, намеснік старшыні КДК Беларусі Аляксандр Агееў сістэматычна незаконна выкарыстоўвае адміністрацыйны рэсурс.

Кандыдат Кастусёў просіць ЦВК: «Адмяніць рэгістрацыю кандыдата ў дэпутаты НС РБ Агеева ў сувязі з сістэматычным незаконным выкарыстаннем адміністрацыйнага рэсурсу. Даць пісьмовы матываваны адказ на мой адрас. Загадзя паведаміць мне дату і час пасяджэння Цэнтральнай выбарчай камісіі па разглядзе маёй скаргі».

Па словах Рыгора Кастусёва, парушэнні з боку кандыдата ў дэпутаты Аляксандра Агеева працягваюцца і зараз, з выкарыстаннем адміністрацыйнага рэсурсу намесніку старшыні КДК арганізоўваюць сустрэчы на прадпрыемствах і ў арганізацыях у раёнах, якія ўваходзяць у Шклоўскую выбарчую акругу №90.

Нагадаем, што раніцай 11 верасня кандыдата ў дэпутаты Рыгора Кастусёва спрабавалі не пусціць на сустрэчу з выбаршчыкамі, якую арганізавалі ў бяльніцкім сыраробным цэху ААТ «Бабулін гладыш» для кандыдата ў дэпутаты Аляксандра Агеева.

**Матэрыялы падрыхтаваныя паводле інфармацыі кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары»**

## ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# ПАЛІТВЯЗНЯМ ПАТРЭБНАЯ САЛІДАРНАСЦЬ!

**Вольга ХВОІН**

**Лідара «Маладога фронту» Зміцера Дашкевіча ўначы з 3 на 4 верасня этапавалі ў Віцебскі следчы ізалятар.**

28 жніўня ў папраўчай калоніі №13 у Глыбокім у закрытым рэжыме адбыўся суд над Дашкевічам па новай крымінальнай справе. Яго абвінавацілі ў непадпарадкаванні адміністрацыі папраўчай установы (ч. 1, арт. 411 КК РБ) і пакаралі годам калоніі.

Нагадаем, Зміцер Дашкевіч разам з Эдуардам Лобавым быў затрыманы напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў 18 снежня 2010 года. Іх абвінавацілі нібыта ў злосным хуліганстве. Дашкевіча асудзілі да двух гадоў зняволення, Лобава — да чатырох.

Пасля вынясення лідару «Маладога фронту» новага прысуду 114 дэмакратычных кандыдатаў у дэпутаты выступілі з сумеснай заявай у яго абарону. У заяве адзначаецца, што «чарговы прысуд, вынесены да заканчэння тэрміну папярэдняга, — гэта яшчэ адзін сродак у арсенале рэпрэсіяў беларускіх уладаў. Пераслед, якому падвяргаецца Дашкевіч, носіць выразна палітычны характар і супярэчаць міжнародным абавязацельствам Беларусі, у прыватнасці аб недапушчэнні жорсткага і бесчалавечнага абыходжання і пакарання».

Кандыдаты ў дэпутаты парламенту, якія прадстаўляюць розныя дэмакратычныя партыі і рухі, патрабуюць вызвалення ўсіх палітвязняў Беларусі. Цяпер у гэтым сумным спісе 14 чалавек: Зміцер Дашкевіч, Мікалай Статкевіч, Мікалай Аўтуховіч, Павал Севярынец, Алесь Бяляцкі, Эдуард Лобаў, Сяргей Каваленка, Васіль Парфянкоў, Ігар Аліневіч, Аляксандр Францкевіч, Мікалай Дзядок, Яўген Васьковіч, Павел Сырамолатаў, Арцём Пракапенка.

Варта звярнуць увагу на палітзняволенага Мікалая Аўтуховіча, які быў асуджаны быццам бы за захоўванне пяці патронаў на пяць гадоў. Мікалай Аўтуховіч — ветэран афганскай кампаніі, паспяховы прадпрымальнік і дэмакратычны актывіст з Ваўкавыску.

Аўтуховіч адбывае тэрмін у папраўчай калоніі №5 у Івацэвічах. У снежні 2011 года на месяц быў змешчаны ў памяшканне камернага тыпу. Рашэннем суда, які адбыўся 17 студзеня 2012 года, быў пераведзены ў турму Гродна. Камера, у якой сядзіць воін-афганец, знаходзіцца ў падвальным памяшканні, там высокая вільготнасць, кепскае асвятленне. Цяпер з адміністрацыяй і асуджанымі адносіны больш роўныя. Сядзіць Мікалай у камеры з адным чалавекам, прагулка толькі адзін раз на дзень на гадзіну. «Мікалай вельмі рады, калі яму пішуць. Часам злуецца, што на яго забываюцца. Але жонка кажа, што яе вельмі ўражвае мужнасць Мікалая, яго здольнасць трымацца, бо чалавека ні за што пазбавілі свабоды», — распавядае праваабаронца Алег Волчак. Ён адзначыў, што з кастрычніка Мікалаю застанецца 1,5 гады турэмнага зняволення.

Алег Волчак цяпер вядзе інфармацыйную кампанію за змену ўмоваў утрымання вязняў ва ўстановах пенітэнцыярнай сістэмы Беларусі. «Я б зрабіў акцэнт, што незалежна ад віны чалавека, ад таго, палітвязень гэта ці сапраўдны злачынца, нельга ствараць жудасныя ўмовы ўтрымання, каб ён звяром на ўвесь свет. Дай Бог, каб людзі, які вынеслі вырак Мікалаю ды забралі ў яго гады паўнавартаснага жыцця, аднойчы асэнсавалі сваю віну і папрасілі прабачэння. Бо гэта катаванне невінаватага, яго сям'і», — гаворыць праваабаронца.

P.S. Змітра Дашкевіча можна падтрымаць, даслаўшы ліст альбо паштоўку на адрас: 210026, Віцебск, вул. Гагарына, 2, СІЗА–2. Дашкевічу Дзмітрыю Вячаслававічу.

Лісты для Мікалая Аўтуховіча пішыце на адрас: 230023, г. Гродна, вул. Кірава, 1, турма №1.

## КАМПАНІЯ

# МАРАФОН САЛІДАРНАСЦІ

**Мікіта БРОЎКА**

**З 10 верасня ў сядзібе БНФ распачаўся марафон салідарнасці з палітвязнямі. На працягу тыдня кожны дзень у падтрымку палітвязняў тут будуць выступаць вядомыя беларускія творцы.**

11 верасня ў сядзібе БНФ заспяваў Зміцер Вайцюшкевіч, а вядомы мастак Алесь Пушкін прадставіў шэраг сваіх карцін.

«Рашэнне правесці такі марафон з'явілася спантанна», — расказала Юлія Сцяпанава, адна з каардынатараў групы «За Волю». Паводле яе слоў, такая ідэя з'явілася на мінулым круглым стале, які быў прысвечаны Змітру Дашкевічу. Варта зазначыць, што на мэце марафона стаіць не толькі абуджэнне хвалі салідарнасці з палітвязнямі, але і падтрымка іх сем'яў. Юлія Сцяпанава падкрэсліла, што многія сем'і згубілі адзіных кармільцаў, таму падчас сустрэч будзе арганізаваны збор сродкаў для падтрымкі сваякоў палітзняволеных.

Па словах мастака Алеся Пушкіна, ён прыняў удзел у марафоне салідарнасці для таго, каб засведчыць тое, што ён выступае супраць палітычных зняволенняў у Беларусі. «З людзьмі трэба дыскутаваць, спрачацца, а не хаваць за краты», — зазначыў Алесь Пушкін. Ён лічыць, што наяўнасць палітвязняў — вынік страху ўлады перад імі.

Выступ Змітра Вайцюшкевіча адзначыўся невялікай прэм'ерай. Акрамя вядомых хітоў ён выканаў некалькі песень з будучага альбома, які рыхтуецца на вершы Генадзя Бураўкіна. Гэты альбом — спроба стварыць «беларускі шансон», а калі дакладней — беларускія турэмныя песні.

Напрыканцы імпрэзы Юлія Сцяпанава зрабіла Вайцюшкевічу і Пушкіну сімвалічныя падарункі — плюшавых мядзведзікаў з бел-чырвона-белымі сцяжкамі ў лапах.

## СПАДЧЫНА

# АСТАПОВІЧ ПРАПАНУЕ

**Марат ГАРАВЫ**

**Беларускае добраахвотнае таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры прапанавала Міністэрству культуры надаць статус комплекснай нерухомай матэрыяльнай гісторыка-культурнай каштоўнасці (аб'ёмна-планіровачная структура, будынкі і збудаванні, ландшафт) ансамблю пасляваеннай сталічнай жылой забудовы, абмежаванай вуліцамі Камуністычная, імя Максіма Багдановіча, Валер'яна Куйбышава і Ціхана Кісялёва.**

Пра гэта паведаміў старшыня таварыства Антон Астаповіч. Паводле ягоных слоў, два кварталы ў цэнтры Мінску з 43-ма двухпавярховымі цаглянымі атынкаванымі дамамі — першы прыклад узвядзення ў сталіцы спальнага раёну на прынцыпах квартальнай забудовы, свабоднай планіроўкі і тыпавога домабудавання.

Будынкі гэтых кварталаў, узведзеныя ваеннапалоннымі ў 1945–1947 гадоў, маюць шмат адметных архітэктурных рысаў (фасады ўпрыгожваюць карнізы, прафіляваныя цягі, ліштвы, сандрыкі, дэкаратыўныя ляпныя аздобы, руст, парталы, балюстрадныя агароджы балконаў і складаныя падтрымліваючыя кранштэйны, у дамах — зручныя кватэры, прасторныя жылыя пакоі ўдалых прапорцый) і ствараюць унікальную кампазіцыю з ярка выяўленым духам эстэтыкі першых год пасля сканчэння Другой сусветнай вайны.

Кватэры, у асноўным, двухпакаёвыя, плошчай 28–39 квадратных метраў, і трохпакаёвыя, плошчай 36–52 квадратныя метры. Зручная кухня месціцца ў глыбіні кватэры, а папарна скампанаваныя санітарныя вузлы — каля ўнутранай сцяны. Дамы былі абсталяваныя водаправодам, каналізацыяй і пячным ацяпленнем, замененым на цэнтральнае напрыканцы 1960-х гадоў.

«І хаця гэтыя дамы сёння патрабуюць істотнай мадэрнізацыі, захавалася архітэктура забудовы кварталаў і кожнага тыпавога дома, а таксама канцэпцыя і творчы стыль аўтараў — айчынных дойлідаў. Вось чаму гэтыя ўнікальныя кварталы масавай жылой забудовы сталіцы першых пасляваенных гадоў мэтазгодна захаваць для будучых пакаленняў, тым больш што ў краіне адсутнічаюць падобныя прыклады архітэктурных ансамбляў», — падкрэсліў Антон Астаповіч.

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# А ШТО ПАСЛЯ?

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Здаецца, ніхто нікому дапамагаць на гэтых выбарах не будзе. Не плануецца «экспарту дэмакратыі» ў Беларусь, але і беларускім уладам даверу больш няма. Такім чынам, выбары, хутчэй за ўсё, пройдуць у «нармальнай, працоўнай абстаноўцы», а праблемы, якія пасля іх узнікнуць, грамадзянам ізноў давядзецца вырашаць сам-насам.**


Пасля выбараў

Пра тое, што «экспарту дэмакратыі» не будзе, заявіў каардынатар місіі назіральнікаў за выбарамі ў Беларусі Парламенцкай асамблеі (ПА) АБСЕ Матэа Мекачы. «Мы тут не для таго, каб экспартаваць дэмакратыю, а для таго, каб назіраць», — заявіў ён у інтэрв'ю БелаПАН.

З боку прадстаўнікоў асамблеі яшчэ раз было падкрэслена: высновы Бюро па дэмакратычных інстытутах і правах чалавека (БДІПЧ) і ПА АБСЕ паводле вынікаў выбараў у Беларусі будуць грунтавацца выключна на фактах, сабраных як доўгатэрміновымі назіральнікамі, так у дзень галасавання і пры падліку галасоў. «Гэтыя факты будуць ацэньвацца ў святле міжнародных абавязацельстваў у галіне правоў чалавека і дэмакратыі, якія Беларусь добраахвотна ўзяла на сябе, далучыўшыся да АБСЕ. Гэта тыя каштоўнасці, якія беларускія ўлады абавязаліся выконваць», — нагадаў Мекачы.

То бок, усё будзе ў межах закону і тых міжнародных абавязацельстваў. Не забыліся еўрапейцы і на так званыя «асаблівасці правапрымяняльнай практыкі», за якія доўга крытыкуецца Беларусь. Сапраўды, што карысці з прысутнасці на ўчастку назіральнікаў, калі яны знаходзяцца за 10 метраў ад падліку галасоў?

Прэзідэнт Парламенцкай асамблеі (ПА) АБСЕ Рыкарда Мільёры, які таксама быў у Мінску, заўважыў, што гутарыў на гэты конт «на самым версе». «Калі я ў пачатку жніўня ў Рыме сустракаўся з міністрам Мартынавым, былым кіраўніком МЗС, ён мне сказаў, што гэта адбывалася з-за недастатковага разумення нейкіх момантаў старшынямі ўчастковых камісій», — сказаў Мільёры.

Зараз жа Мільёры размаўляў са старшынёй ЦВК. «Самы важны момант заключаўся ў абяцанні, якое было нам дадзена, аб допуску міжнародных назіральнікаў на выбарчых участках туды, дзе будзе праводзіцца падлік і апрацоўка бюлетэняў», — сказаў Мільёры.

«Добрыя намеры старшыні ЦВК мы праверым непасрэдна на месцах. Мы ў Італіі гаворым: «Калі гэта ружы, то рана ці позна яны расцвітуць». Пакуль мы заўважылі толькі шыпы», — падкрэсліў Рыкарда Мільёры.

Вось цікава, допусцяць да падліку галасоў усіх назіральнікаў, альбо толькі замежных? Хаця замежнікі плануюць ахапіць назіраннем каля 15% участкаў, што таксама нямала. Вось будзе дзіўна, калі менавіта на гэтых участках выбары не адбудуцца!

Хаця больш за выбары людзей хвалюе толькі тое, што будзе пасля выбараў. На беларускім валютным рынку паступова нарастае напружанасць, звязаная з набліжэннем парламенцкіх выбараў. Навучаныя горкім вопытам, жыхары Беларусі разумеюць, што пасля выбараў у кіраўніцтва краіны знікне важны стымул захоўваць стабільнасць на валютным рынку, таму на ўсялякі выпадак рыхтуюцца да непрыемнасцяў, хоць іх на гэты раз нішто не прадвяшчае.

Дадзеных аб аб'ёмах продажу валюты за верасень яшчэ няма, але аналітыкі кажуць, што людзі зараз больш актыўна купляюць валюту. Да таго ж, Нацбанк у жніўні некалькі не своечасова паслабіў курс беларускага рубля ў адносінах да долара (на 1,6%), што выклікала дадатковыя падазрэнні ў насельніцтва.

Яшчэ большыя сумневы пасеялі апошнія заявы Аляксандра Рыгоравіча і ягоных памагатых. Падчас даклада ўрада і Нацбанка Аляксандру Лукашэнку аб працы эканомікі за мінулы перыяд 2012 года, прэм'ер-міністр Міхаіл Мясніковіч запэўніў, што даручэнне па дасягненні да канца 2012 года сярэдняй заработнай платы па краіне ў 500 долараў у эквіваленце будзе выканана.

Больш за тое — урад абяцае самае святое. У снежні 2013 года плануецца выхад на сярэднюю зарплату больш як 600 долараў. Сказана так, нібыта наш Нацбанк замест друкавання беларускіх рублёў пачаў друкаваць долары. Праўда, ніхто не сказаў, за кошт чаго гэта будзе выканана і колькі тады ў краме будзе каштаваць кілбаса.

Канешне, Мясніковіч падкрэсліў, што прапанаваныя тэмпы росту эканомікі ў 2013 годзе будзе забяспечваць надзвычай цяжка. Але ж мы тут не вінаватыя! Вінаватыя, як заўсёды, хто заўгодна, толькі не мы. Па меркаванні Мясніковіча, асаблівая складанасць звязана з нізкімі прагназаванымі тэмпамі росту ў 2013 годзе ў асноўных гандлёвых партнёраў Беларусі. У прыватнасці, паводле звестак Сусветнага банка і Міжнароднага валютнага фонду, параўнальна невысокія тэмпы росту плануюцца ў партнёраў па Мытным саюзе, а ў ЕС чакаецца рэцэсія.

Вось гады якія, зрываюць нашы планавыя паказчыкі. А каб іх дасягнуць, трэба ў 2013 годзе 65% усёй вырабленай прамысловай прадукцыі і 20% сельскагаспадарчых тавараў прадаць на экспарт.

А яны, бач, не развіваюцца, і, адпаведна, не купляюць прадукцыю сінявокай. Вось ворагі!

І яшчэ адно насцярожыла. «Шмат зараз ідзе размоў, не ведаю, ад каго, наконт дэвальвацыі, дэнамінацыі і гэтак далей. Але сам праект бюджэту, вы бачыце, у трыльёнах цяперашніх рублёў, і мы там не прадугледжваем ніякай дэвальвацыі і тым больш дэнамінацыі», — заявіў на гэтай нарадзе Аляксандр Рыгоравіч. «Вы растлумачце людзям, што мы не пойдзем ні на якую дэвальвацыю. Няма такой неабходнасці сёння дэвальваваць нацыянальную валюту, — сказаў ён. — Мы сёння не стрымліваем курс. Які складваецца, такі складваецца. Я гэта сказаў пры прызначэнні старшыні Нацбанка і пастаянна кантралюю. Калі ў народзе нейкія ідуць шараханні, гэта, хутчэй за ўсё, ад гэтых нашых «свядомых», якія пачынаюць людзей запалохваць».

Вось, яшчэ і «свядомыя» вінаватыя. Але ўважлівы чытач-слухач беларускага правадыра імгненна кінецца ў абменнікі. Калі ў бюджэце не прадугледжана дэнамінацыі ці дэвальвацыі, значыць, дэнамінацыя ці дэвальвацыя будзе нечаканай. Таму што дэвальвацыі 2008 і 2011 года таксама не былі прапісаныя ў бюджэце, яны прыйшлі, як паўночны пушны звярок пясец — ціха і незаўважна. І толькі калі яны адбыліся, стала зразумела, што пясец ужо тут — нават не на парозе, а ўжо гаспадарыць у хаце.

Так што рыхтавацца да поствыбараў — задача значна больш складаная, чым правесці самі выбары.

**Навучаныя горкім вопытам, жыхары Беларусі разумеюць, што пасля выбараў у кіраўніцтва краіны знікне важны стымул захоўваць стабільнасць на валютным рынку, таму на ўсялякі выпадак рыхтуюцца да непрыемнасцяў**

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ

### АЛЯКСАНДР ЯФІМАЎ



Допінг у ежу штурхальніцы ядра Надзеі Астапчук дадаў яе трэнер Аляксандр Яфімаў. Пра гэта 11 верасня на прэс-канферэнцыі ў Мінску заявіў дырэктар Нацыянальнага антыдопінгавага агенцтва Аляксандр Ванхадла. Паводле яго слоў, Яфімаў дадаў забаронены прэпарат у ежу спартсменцы 30 ліпеня пасля праходжання ёю допінг-кантролю па міжнароднай лініі. Як паведаміў Ванхадла, у антыдопінгавага агенцтва ёсць прызнанне Яфімава ў гэтым учынку. Свае дзеянні трэнер матываваў няўпэўненасцю ў добрым выніку на Алімпіядзе.

Прэс-канферэнцыя адбывалася без удзелу Астапчук і Яфімава. Спартсменка так пракаментавала рэсурсу Goals.by агучанае прызнанне Яфімава: «Не веру ва ўсё гэта. Ведаю сітуацыю толькі па тым, што напісана ў прэсе. Гэта проста жах нейкі. А трызненне я каментаваць не хачу. Як можна ў гэта верыць? Чалавек мне маці замяніў пасля яе смерці. Усе гэтыя фармулёўкі смешныя. Не веру, што ён гэта мог зрабіць. Гэта нейкі поўны абсурд».

Аляксандр Яфімаў каментаваць скандальную інфармацыю «Еўрарадыё» адмовіўся. Толькі сказаў, што пакуль нічога каментаваць ці адмаўляць не будзе. «Я змяню прозвішча Яфімаў на Ідыёт», — дадаў трэнер.

### СТАНІСЛАЎ ГАЛКОЎСКІ



Да чэмпіянату свету па хакею ў Мінску выпусцяць гібрыд клюшкі, відэльца і нажа. Гэты сталовы прыбор прыдумаў гомельскі журналіст Станіслаў Галкоўскі. На вынаходніцтва аўтара натхнілі абвешчаны БРСМ рэспубліканскі конкурс «100 ідэй для Беларусі» і чэмпіянат свету па хакеі 2014 года. У Гомельскім прафесійна-тэхнічным каледжы машынабудавання ўжо зрабілі першыя ўзоры сталовага прыбора з нержавейкі. «Наш калектыў з энтузіязмам падтрымаў ідэю стварэння новага сталовага прыбора. Для нас гэта стала незвычайным заданнем, не па складанасці, а па змесце, ніхто і ніколі яшчэ ў свеце не рабіў відэлец-клюшку. Думаю, што гэта вынаходніцтва варта выпусціць у прамысловых аб'ёмах. Такі сталовы прыбор можа стаць візітоўкай сусветнага чэмпіянату: убачыў нехта відэлец-клюшку — і адразу ўспомніў Беларусь», — распавёў дырэктар каледжа Генадзь Казлоў.

Як тлумачыць аўтар вынаходніцтва, для масавага продажу відэлец-клюшка задумана як пластыкавая і аднаразовая мадэль. Металічная мадэль — хутчэй сувенірная прадукцыя, піша БелТА. Аўтар сваё дзецішча назваў «чыкін-по». Chicken paw — у перакладзе з англійскай азначае «курыная лапка». На ручцы «чыкін-по» Галкоўскі хоча змясціць сімволіку чэмпіянату, напісаць «Minsk–2014».

### СЯРГЕЙ ДРАЗДОЎСКІ



Праблему інваліднасці ў сваіх праграмах не закранаюць кандыдаты ў дэпутаты ні ад улады, ні ад апазіцыі. Бо не бачаць людзей з фізічнымі асаблівасцямі ў якасці мэтавай аўдыторыі, звяртае ўвагу на ігнараванне праблем беларускіх грамадзян каардынатар мінскага Офіса па правах людзей з інваліднасцю Сяргей Драздоўскі.

«Афіцыйна каля 6% грамадзян мае інваліднасць. Людзей, якія ідэнтыфікуюць сябе па стане здароўя з інваліднасцю — каля 10%. Па выніку нашага апытання аб датычнасці да інваліднасці (у сям'і ёсць інвалід, нехта з сяброў, калегі) — гэта 50% насельніцтва. У большасці праграмаў і стратэгіяў палітычных партый пытанне інваліднасці не падымалася ў прынцыпе», — распавёў Сяргей Драздоўскі пра маштабы праблемы для інтэрнэт-рэсурса «Завтра твоей страны».

Па словах Драздоўскага, штогод у мінскі Офіс па правах людзей з інваліднасцю паступае 1000–1400 зваротаў. Палова з іх датычыцца якасці жыцця і сацыяльнай абароны. Больш за траціна спраў — праблема дзеяздольнасці. То бок чалавека пазбаўляюць яго грамадзянскіх правоў. «Мы называем гэта грамадзянскай смерцю, а заканадаўства не мае механізмаў вяртання дзеяздольнасці. Цалкам магчыма, што? маючы дастаткова сілы, асоба здольная быць самастойнай. Але для гэтага неабходна прайсці неверагодна складаныя адміністратыўныя працэдуры, што ў адзіночку зрабіць немагчыма», — распавядае Сяргей Драздоўскі пра аспекты жыцця, непапулярныя ў беларускіх палітыкаў.

▸ ВЫБАРЫ

# ПЯЦЬ ХВІЛІНАК ДЭМАКРАТЫІ

Вольга ХВОІН

**Перадвыбарная агітацыя блізіцца да фіналу. Але, апроч пяціхвілінак тэледэбатаў, якія прапусцілі ў эфір, сатырычных улётак ды нешматлюдных сустрэч з выбарцамі, асабліва і прыгадаць няма чаго. І назіральнікі, і аналітыкі ў адзін голас гавораць пра «вялацякучую выбарчую кампанію».**

Парламенцкія выбары, у адрозненне ад выбараў прэзідэнцкіх, беларуская ўлада праводзіць у «сумным рэжыме». У гэтым ёсць свая рацыя. У электаральнай мабілізацыі акрамя плюсаў маюцца і мінусы. Мабілізуючы сваіх прыхільнікаў, улада аўтаматычна мабілізуе і сваіх апанентаў. Адсюль Плошча з яе букетам негатыўных для сацыяльнай стабільнасці наступстваў.

Улічваючы цяперашні стан эканомікі, з вялікай ступенню верагоднасці можна прагназаваць, што цяперашнія парламенцкія выбары не стануць выключэннем. Яны пройдуць традыцыйна. Гарантам традыцыі, што склалася, выступіць сам кіраўнік дзяржавы, пра што ён і заявіў у ходзе травеньскага паслання: «Я гарантую, што маючая адбыцца выбарчая кампанія пройдзе на самым высокім узроўні і ў строгай адпаведнасці з законамі і Канстытуцыяй нашай краіны. Ні кроку налева, направа, ні кроку!».

Аналітыкі Незалежнага інстытута сацыяльна-палітычных і эканамічных даследаванняў яшчэ да пачатку выбарчай кампаніі канстатавалі, што беларуская грамадства вельмі абыякава ставіцца да палітыкі.

Галоўнай праявай палітычнай актыўнасці беларусаў ёсць «галасаванне нагамі» старэйшага пакалення, то бок звычка хадзіць на ўчастках ды запаўняць бюлетэнь незалежна ад таго, ці звязваюцца з кандыдатам N нейкія спадзяванні. У актыўных кампаніях гатовыя ўдзельнічаць толькі 21,5% беларусаў. Калі блізкі па духу кандыдат у дэпутаты прапануе ўвайсці ў яго выбарчую каманду, то ад такой авантуры адмовіцца ажно 68,3% апытаных.

«Пры гэтым насуперак фактару страху, на які так любяць спасылацца многія незалежныя эксперты і апазіцыйныя палітыкі, праціўнікі ўлады дэкларуюць сваю гатоўнасць аказаць дапамогу свайму кандыдату ў 2,8 разу часцей за прыхільнікаў улады», — абнадзейваюць аналітыкі НІСЭПД.

Высновы сацыёлагаў паказвае і практыка. Так, у справаздачы назіральнікаў за выбарамі канстатуецца, што «дэбаты кандыдатаў адбываюцца на меншасці акругаў, інфармацыйныя стэнды ў многіх акругах застаюцца пустымі, не назіраецца масавага распаўсюджвання друкаванай агітацыйнай прадукцыі».

Гэтай апатыі ўсяляк садзейнічае і Цэнтральная камісія (пры гэтым старшыня ЦВК любіць панаракаць на тое, што электаральныя кампаніі праходзяць сумна ды без драйву). Было забаронена ўдзельнічаць у тэледэбатах тым давераным асобам кандыдатаў у дэпутаты, якія самі з'яўляюцца кандыдатамі. Хаця гэтае рашэнне і супярэчыць арт. 46 Выбарчага кодэкса, які дазваляе давераным асобам кандыдатаў удзельнічаць у дэбатах замест кандыдата без агаворак. Мае месца працэс цэнзуравання тэлевыступаў апазіцыйных кандыдатаў і іх праграм у дзяржаўнай прэсе, ёсць факты выкарыстання адміністрацыйнага рэсурсу на карысць праўладных кандыдатаў.

Але пры ўсёй паныласці працэсу ўсё ж менавіта тэледэбаты крыху расфарбоўваюць тэлевізійны эфір. Хаця і ў гэтым сціплым 5-хвілінным праве голасу нямногія пабачылі магчымасці, як і ў вулічных пікетах. «Нягледзячы на тое, што на сёлетніх парламенцкіх выбарах зарэгістравана на 100 кандыдатаў больш, чым на папярэдніх, далёка не ўсе з іх выкарыстоўваюць магчымасць правядзення вулічных агітацыйных мерапрыемстваў. У прыватнасці, толькі 73 прэтэндэнты падалі заявы на перадвыбарныя пікеты, з іх 40 — у Мінску».

Перадвыбарныя дэбаты таксама не сталі распаўсюджанай з'явай. Так, у Гродзенскай вобласці яны не пройдуць ні ў адной з акругаў, у Мінску — у 14 акругах, у Брэсцкай і Віцебскай абласцях — у 8, у Магілёўскай — у 5, у Мінскай і Гомельскай абласцях — у 2 акругах». Варта было б адзначыць удалыя выступы кіраўніка партыі АГП Анатоля Лябедзькі, незалежнага кандыдата Віталя Каратыша, кандыдата ад партыі «Справядлівы свет» Мікалая Петрушэнкі. Гэтыя людзі змаглі не толькі прэзентаваць сябе, але і ў лімітаваны час агучыць праблемы сучаснай Беларусі, вастрэйшая з якіх — невыкананне правоў чалавека, наяўнасць у краіне палітзняволеных.

Да слова, на сённяшні дзень найбольш слушнай выглядае пазіцыя Аб'яднанай грамадзянскай партыі — удзельнічаць у выбарах, каб скарыстацца лімітаванымі магчымасцямі данесці да людзей сваю пазіцыю, але не ўдзельнічаць у самім этапе галасаванне, калі ў краіне ў турмах сядзяць людзі за свае погляды і грамадзянскую пазіцыю.

Да гэтых жа тэзаў працягваюць апеляваць і еўрапейскія палітыкі, але ўжо, відавочна, без ілюзорных спадзеваў. Так, прэзідэнт Еўрапейскага парламента Марцін Шульц заклікаў Аляксандра Лукашэнку правесці ў Беларусі палітычныя рэформы і вызваліць усіх палітзняволеных. «З вялікай заклапочанасцю мы назіраем за тым, як працягваецца парушэнне правоў чалавека, вяршэнства закона і дэмакратычных каштоўнасцяў у Беларусі, — сказаў Шульц. — Я вельмі занепакоены апошнімі падзеямі ў краіне, у тым ліку забаронай на выезд некаторым лідарам апазіцыі і праваабаронцам, а таксама законамі, якія пашыраюць паўнамоцтвы КДБ, і нядаўнім выдвареннем шведскага пасла». Шульц заклікаў афіцыйны Мінск забяспечыць правядзенне парламенцкіх выбараў, якія адбудуцца 23 верасня, «з павагай да міжнародных стандартаў, каб усе кандыдаты мелі роўныя шанцы і каб назіральнікі АБСЕ маглі свабодна выканаць сваё заданне».

Але відавочна, што прарыву ад цяперашняй выбарчай кампаніі чакаць не даводзіцца, як і, напрыклад, штуршку да беларуска-еўрапейскага супрацоўніцтва (хаця б рэалізацыі прапанаванай сёлета праграмы «Дыялог для мадэрнізацыі Беларусі») ад касметычнага дазволу на пяціхвілінныя тэледэбаты, якія быццам бы ілюструюць дэмакратычнасць беларускага рэжыму.




▸ НАЗІРАННЕ

# У ДАПАМОЖНІКАХ НЕ ПРАПІСАНА

Вольга ХВОІН

**Ужо на наступным тыдні распачнецца датэрміновае галасаванне на парламенцкіх выбарах. Пакуль доўгатэрміновыя назіральнікі заклапочаныя цэнзураваннем выступаў кандыдатаў у дэпутаты, але ў хуткім часе паўстане стабільная, як сама Беларусь, праблема электаральнага працэсу — доступ назіральнікаў да падліку галасоў.**

Да слова, на гэтым тыдні старшыня Цэнтрвыбаркама Лідзія Ярмошына заявіла, што назіральнікі будуць мець магчымасць свабодна глядзець за падлікам галасоў. Праўда, тое не прапісана ў дапаможніках. Кіраўніца ЦВК распавяла, што цяпер у выбарчых камісіях праходзяць ролевыя гульні, падчас якіх асаблівая ўвага надаецца ролі назіральніка пры падліку галасоў.

Цэнтрвыбаркам распрацаваў адмысловыя дапаможнікі для акруговых і ўчастковых выбарчых камісій, у якіх «у гульнявым варыянце проста даецца адказ на пытанне», цытуе Ярмошыну БелаПАН. У той жа час, адказваючы на пытанне, ці змогуць назіральнікі бачыць пры падліку галасоў, за якое прозвішча прагаласавалі выбаршчык, Ярмошына адзначыла: «У дапаможніках мы такое ніколі не пішам — гэта занадта суб'ектыўна».

У дапаможніку для сябраў участковых камісій указана, што «назіральнікі, якія прысутнічаюць пры падліку галасоў, займаюць месцы, што дазваляюць ім назіраць за дзеяннямі сябраў участковай камісіі, але так, каб не ствараць пры гэтым перашкод іх працы». Акрамя таго, там апісваецца сітуацыя з удзелам назіральніка: «Назіральнік заявіў, што знаходзіцца далёка ад стала, на якім падлічваюцца бюлетэні, не бачыць працэсу падліку, таму заняў месца бліжэй да стала. Старшыня вярнуў назіральніка на ранейшае месца і папярэдзіў, што выдаліць з памяшкання для галасавання, калі ён будзе падыходзіць бліжэй. Назіральнікі маюць права не толькі прысутнічаць пры падліку галасоў, але мець рэальную магчымасць назіраць працэдуру падліку. Таму старшыня камісіі не мае права ігнараваць такую просьбу: ён павінен указаць назіральнікам месца іх размяшчэння, якое дазваляе аглядаць падлік».

Раней прадстаўнікі ЦВК абяцалі забяспечыць магчымасць назірання за працэдурай падліку галасоў. «У ЦВК нас запэўнілі, што нашы назіральнікі змогуць свабодна назіраць за падлікам галасоў», — паведаміў БелаПАН кіраўнік доўгатэрміновай місіі Бюро па дэмакратычных інстытутах і правах чалавека АБСЕ Антоніа Мілашоскі.

Да слова, свой «Дапаможнік па маніторынгу выбараў дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь 2012 года для кароткатэрміновых і доўгатэрміновых назіральнікаў» падрыхтавалі і адмыслоўцы кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары». У выданні дэталёва і даступна аналізуюцца дзеянні назіральнікаў падчас кожнага этапу выбарчай кампаніі, пададзеныя ўзоры заяваў і справаздач, неабходныя для працы назіральнікаў. З дапаможнікамі можна азнаёміцца на сайце spring96.org.

Доступ назіральнікаў да падліку галасоў і на адкрытых участках заўсёды выклікае пытанні — звычайна назіральнікаў размяшчаюць на адлегласці ў некалькі метраў, а члены камісій закрываюць стол з бюлетэнямі сваімі спінамі. Надта актыўныя назіральнікі, як удумаюць пратэставаць, рызыкуюць апынуцца за дзвярыма па рашэнню старшыні камісіі.

Але ёсць участкі для галасавання, куды назіральнікі фактычна ніколі і не трапляюць — так званыя закрытыя ўчасткі. Сёлета ЦВК сфарміраваў 6 344 участкаў для галасавання. З іх 268 знаходзяцца ў санаторыях, прафілакторыях, дамах адпачынку, бальніцах ды іншых стацыянарных лячэбна-прафілактычных установах, 39 — у воінскіх частках.

Прадстаўнік кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары» Валянцін Стэфановіч гаворыць, што за шматгадовую практыку назірання яму нават цяжка ўзгадаць прыклады, калі на такія ўчасткі атрымалася патрапіць. «Вядома, што ў воінскіх частках фактычна ўсё галасаванне адбываецца ў датэрміновы перыяд. У бальніцах, санаторыях людзі болью вольныя, і тут ужо самі вырашаюць, калі ім апусціць бюлетэнь у скрыньку. Але я звяртаю ўвагу, што правы выбарцаў на закрытых участках нічым не адрозніваюцца ад агульных правоў выбарцаў. Увогуле, такія ўчасткі складаюць невялікі адсотак ад агульнай колькасці, таму нас цяпер найперш цікавіць назіранне за працэсам датэрміновага галасавання», — зазначыў Валянцін Стэфановіч.

На апошніх прэзідэнцкіх выбарах, па інфармацыі ЦВК, яўка на закрытых участках склала 99,1%. За дзейнага кіраўніка Беларусі Аляксандра Лукашэнку там аддалі свае галасы 89,1% выбарцаў. Вось як выглядаюць узорна-паказальныя ўчасткі, на якія мусяць раўняцца астатнія.

МЕРКАВАННЕ

# СУСВЕТНЫЯ СМІ І МЫ

Працяг. Пачатак на стар. 1.




Падчас выступу прэзідэнта Украіны Віктара Януковіча на Сусветным газетным кангрэсе 3. 09.2012

Тэма свабоды слова дастаткова моцна прагучала на заключнай сесіі кангрэса, якая называлася «Рынак новых магчымасцей — медыя-трэнды ў краінах экс-СССР». Прычым, насуперак намаганням мадэратара Барыса Ложкіна. Яна папросту прарывалася на паверхню, бо якія ж магчымасці, калі няма свабоды? Змест дыскусіі будаваўся пераважна вакол сітуацыі ва Украіне і Расіі. Але лёгка накладаўся на сітуацыю ў Беларусі. Так, з сумам праводзілі паралелі беларускія журналісты, у іх яшчэ больш свабодаў, аднак якое пазнавальнае падабенства тэндэнцый! Ці хопіць калегам сіл і часу, каб спыніць наступ таталітарызму?

Як бы тое ні было, але рэжыму Януковіча ўдалося ўсё ж на кангрэсе знівеляваць тэму дэмакратычнага развіцця СМІ, тэму свабоды слова і выкарыстаць мерапрыемства на свой піяр. Як падзею, якая, на роўні з сусветным футбольным чэмпіянатам, сведчыць пра прызнанне яго палітыкі сусветнай супольнасцю.

## Страчанае і набытае

Кропка адліку — небывалы чытацкі бум інтарэсу да разняволенай прэсы напачатку 1990-х, калі імгненна ўзніклі сотні новых выданняў, а тыражы асобных сіганулі за сто і болей тысяч асобнікаў, калі на тэлебачанні з'явіліся і збіралі каля экранаў тысячы людзей такія палітычныя перадачы, як «Пульс» Анатоля Майсені, «Праспект» Паўла Шарамета. Першы загінуў пры дзіўных абставінах у аўтамабільнай катастрофе. Другі, пасля арышту, быў вымушаны з'ехаць у Расію. Незалежная прэса пад рэпрэсіўным эканамічным і палітычным ціскам зменшылася да пары дзясяткаў агульнанацыянальных і рэгіянальных выданняў. Дзясяткі журналістаў прайшлі праз затрыманні, арышты, штрафы і суды, былі вымушаны эміграваць.

Так была перабіта жывая паўнакроўная тэндэнцыя станаўлення беларускай мадэлі якаснай журналістыкі. Прапагандысцкі ж архіпелаг афіцыйных СМІ наогул адвярнуў, адвучыў ад чытання СМІ ці не мільёны людзей. Гэта культурная катастрофа. Перарыў дынамікі развіцця. Выпадзенне з сусветнай медыйнай прасторы.

Прыкладаў таго, чаго б мы маглі дасягнуць за гэтыя 18 прамінулых гадоў, кангрэс нам прадэманстраваў нямала. Пакінем за дужкамі сусветныя вядомыя брэнды накшталт «Times», «Bild», хаця іх вопыт выключна цікавы і варты, пры пэўнай адаптацыі, пераймання.

А вось прыклады з параўнальных па маштабу краін вельмі паказальныя. У прыватнасці, газеты «Svenska Dagbladet», якая правяла рэарганізацыю і выйшла на тыраж у 400 тысяч экземпляраў, ці медыякампанія «Verbens Gang» у Нарвегіі, што ўзнікла тры гады таму і ўжо выйшла ў лідары ў мабільным інтэрнэце, ці развіццё найбуйнейшай газеты на каталонскай мове ў Іспаніі.

Мы маглі б зараз быць абсалютна сучасным сегментам у агульнай еўрапейскай і глабальнай медыйнай прасторы. Аднак страты нашы, нягледзячы на драматычны маштаб, не з'яўляюцца непапраўнымі. Кангрэс даў нам параўнальны фон да высноў, што менавіта недзяржаўны медыясектар у Беларусі здолеў не адстаць ад сучасных тэндэнцый і дасягненняў у сусветнай медыяпрасторы. Насуперак рэпрэсіўнаму ціску, іншым разам ад безвыходнасці.

Так, забітыя рэжымам Лукашэнкі папяровыя газеты сышлі ў інтэрнэт. Прычым адбылося гэта на першай фазе фарміравання ў свеце новых тэхналогій, якія ў Беларусі наогул знаходзіліся ў эмбрыянальным стане. Рэжым не ўбачыў у тым пагрозы сабе. Але час ішоў, беларускія піянеры інтэрнэту працавалі, цягнуліся за цывілізаваным светам, іншым разам у сваіх вынаходніцтвах нават з апераджэннем. Так, рэдакцыя зачыненага ўладамі часопіса «Студэнцкая думка» прыдумала яго мультымедыйны варыянт на дысках, які на сённяшні дзень выходзіць у інтэрнэце пад назвай 34 mag.net.

Утрымаліся і друкаваныя выданні, запачаткаваўшы на пэўным этапе і свае інтэрнэт-версіі, якія развіваюцца зараз у сучасным мультымедыйным фармаце. Прарыў здзейсніла «Наша ніва», прычым падвойны, заваяваўшы шырокую папулярнасць на беларускай мове.

Парадаксальным чынам да сучаснай агульнасусветнай тэндэнцыі друкаваныя беларускія незалежныя газеты вывеў і той факт, што з-за ціску і недахопу сродкаў, яны не змаглі выходзіць штодзённа, ператварыўшыся ў штотыднёвыя. І менавіта рост інтарэсу да нядзельных газет адзначалі выступоўцы з розных краін, газет падобных да часопісаў — з больш глыбокай інфармацыяй і аналізам, менш навін, больш ведаў. Вяртанне да класікі журналізму ў сукупнасці з навацыямі.

## Маршрутам у будучыню

На сённяшні дзень у Беларусі болей за чатыры мільёны карыстальнікаў інтэрнэту. Сярод іх, па рэйтынгу Акавіты, сумарная сярэдняя штодзённая аўдыторыя вядучых незалежных інфармацыйных рэсурсаў складае болей за 350 тысяч унікальных наведвальнікаў. Сумарны тыраж ацалелых папяровых газет, па дадзеных БАЖ, складае 150 тысяч асобнікаў. Улічым таксама чытачоў іх сайтаў і наведвальнікаў мноства невялікіх сайтаў, якія не фіксуюцца Акавітай. У выніку атрымліваецца болей за 700 тысяч чытачоў незалежных СМІ. Гэта 18–20 працэнтаў ад агульнай інтэрнэт-аўдыторыі.

І мала, і многа. Але відавочна, што гэта ўжо не маленькая выспачка, а ўнушальны плацдарм, тэрыторыя свабоднага слова. Утрымаць яго, паступова пашыраючы, незалежным СМІ ўдалося не толькі праз сваю прынцыповую дэмакратычную пазіцыю, але і праз якасны кантэнт. Адначасова гэта і рэзерв, тэрыторыя росту, што магчыма, зноў жа, толькі праз якасны кантэнт. Праз выкарыстанне і інтэграцыю ўсіх вынайдзеных на сёння платформаў. Праз прывабны дызайн і высокую паліграфію. Праз стварэнне супольнасцяў вакол кожнага выдання, дзе чытач — не толькі карыстальнік, але і творца навін. Праз двухуткасную падачу інфармацыі. Праз тэхналогію таго самага SoLoMo — сацыяльныя, лакальныя, мабільныя СМІ. Пра ўсё гэта ішла размова ў Кіеве.

Беларускія незалежныя СМІ знаходзяцца ў рэчышчы працэсаў развіцця сусветных медыя. Усе іх практыкі намі выкарыстоўваюцца. Проста мы вымушаны былі ісці іншай дарогай. Адрозненне ў маштабе. Улады ўсімі сродкамі імкнуцца блакаваць камунікатыўныя каналы ад нашай выспы свабоднага слова да мацерыка — асноўнай масы беларускага насельніцтва, ад рабочых да чыноўнікаў. У тым і палягае галоўная праблема — чытачы свабодных СМІ застаюцца пакуль што класам у сабе.

Але ўжо адчувальныя імпульсы выспяваючага выбуху інтарэсу да альтэрнатыўнай інфармацыі.

Адваяванае і набытае ёсць дастатковай базай для прарыву, да выхаду на шырокі прастор пры ўмове дэмакратычных перамен і фармавання медыйнага рынку.

Сёння для свабодных краін якасны кантэнт — гэта прадукт, які найлепш прадаецца, умова камерцыйнага поспеху, для несвабодных — найперш прадукт гуманітарнай дапамогі, без якога грамадства не можа выжыць у якасці суб'екта гісторыі, а не аб'екта маніпуляцыі таталітарным рэжымам. І адначасова — інструмент перамен.

КАЛОНКА КАНСТАНЦІНА СКУРАТОВІЧА

# ЛЕКАВАННЕ ДЛЯ ЭКАНОМІКІ

**Ужо ў ліпені сярэдні па краіне заробак склаў 3 925,9 тысячы рублёў, што прыкладна на 30 долараў недацягвае да патрэбнай лічбы ў 500 долараў. Дадзеных за жнівень пакуль што няма. Але з улікам тэмпаў можна спадзявацца, што патрэбны вынік па краіне будзе дасягнуты.**

Можна сказаць, што працэс, які напачатку года выглядаў запаволеным, набыў паскарэнне і добрую інерцыю. У параўнанні са студзенем—ліпенем 2011 года за сем месяцаў бягучага рэальны сярэдні заробак, дзякуючы «летняму паскарэнню», павысіўся на 10,5%. Але, насуперак плану росту ў 5–5,5%, вытворчасць ВУП фактычна павысілася толькі на 2,8%. Да таго ж яе матэрыялаёмістасць замест зніжэння на 2–3% павялічылася на 0,4%, а энергаёмістасць увогуле дала плюс 17,4%, замест мінуса ў 3–4%.

Ці магло быць інačай, калі замест дэклараванага абмежавання дзяржаўных праграм зноў аднавілі фінансаванне розных ферм з еўрапейскімі ўмовамі ўтрымання парсючкоў ды свінак? Дарэчы, рэжым жорсткай эканоміі, які праводзілі з той нагоды, што «беларусы жывуць не па сродках», даў год таму змяншэнне энергаёмістасці ВУП на 9,5%.

Прадукцыйнасць працы павысілася толькі на 5,2%, удвая адстаючы ад тэмпаў падвышэння заробкаў. Год таму такое несупадзенне ўжо выклікала выкарыстанне антыкрызісных мерапрыемстваў, прычыны якіх патлумачыў спадар Тур. Сёння заклапочанасць выказвае ўжо калегіяльны орган. Пра гэта сведчыць справаздача Міністэрства эканомікі, у якой адзначаецца, што ў першым паўгоддзі рост прадукцыйнасці працы адставаў ад тэмпаў падвышэння заробкаў на 2,2%.

Як бачым, прэзідэнт і ўрад не звярнулі на гэтыя разлікі ніякай увагі, дзякуючы чаму ў ліпені адставанне павялічылася.

Пакрэслім вельмі прынцыповую акалічнасць: адны заробак толькі атрымліваюць, іншыя — зарабляюць. Раней ніколі не ставілі знак роўнасці паміж грашовым утрыманнем чыноўніка і зарплатай звычайнага рабочага. А зараз лічыцца, што ўсе, уключна з міністрамі і генераламі, свае грошы быццам зарабляюць. Не, максімум, што яны робяць, гэта дабіваюцца ў вышэйшых інстанцый павышэнняў грашовага ўтрымання. Але робяць гэта пастаянна.



Паколькі дзейнічае тарыфная сетка, для кожнага, хто атрымлівае грошы такім чынам, падвышэнне стаўкі 1-га разраду аўтаматычна прыводзіць да падвышэння і грашовага ўтрымання наогул. Прадпрыемствы, што працуюць на рынак, пры гэтым таксам атрымліваюць права падвысіць заробкі, але збольшага ў межах заробленага — канкрэтных грошай, атрыманых пасля рэалізацыі прадукцыі, а не выканання дырэктыўных паказчыкаў. Карацей кажучы, дыспрапорцыя паміж ростам аплаты працы і прадукцыйнасці ўзнікае ў асноўным дзякуючы дырэктыўным павышэнням ставак грашовым «утрыманцам» бюджэту.

Так набывае паскарэнне інфляцыя, якую можна спыніць толькі вельмі жорсткімі абмежаваннямі.

Чатыры гады таму, падчас мінулых «парламенцкіх выбараў», Лукашэнка таксама абвясціў аб падвышэнні стаўкі 1-га разраду. Але паколькі ён чакаў крэдыту ад МВФ, а той адмовіўся даваць яго пад такую палітыку, рашэнне было анулявана. А на другі дзень новага года была абвешчана першая ў гісторыі краіны 20-працэнтная разавая дэвальвацыя.

Зараз МВФ не хоча мець з намі справы, а ўсходнія крэдыторы, хоць і спецыяльна абгаварылі аналагічныя патрабаванні, грошы даюць. Магчыма, ім таксама цікава паглядзець, як беларусаў у чарговы раз пазбавяць незаробленых сродкаў, на якія яны жывуць.

Як вядома, жыццё поўніцца дзівосамі і ёсць справай living рознабаковай. Калі б у ім усё вызначалася эканомікай, як лічыць шмат хто, яно б, магчыма, з часоў цара Гароха абрала для сябе зусім іншыя прыярытэты. Але спецыялістаў такая метафізіка не цікавіць. Яны разглядаюць рэчаіснасць у сферы толькі сваіх інтарэсаў, але больш уважліва. І таму адзначаюць, што неабходны апераджальны рост вытворчасці працы пакуль забяспечваюць толькі канцэрн «Белнафтахім» і дэпартамент фармацэўтычнай прамысловасці Міністэрства аховы здароўя. А, прыкладам, у Міністэрстве прамысловасці па выніках першага паўгоддзя заробкі павысіліся на 14,4%, пры росце прадукцыйнасці ўсяго на 5,8%. У Мінсельгасхарчы суадносіны склалі 7% супраць 3,3%, у Міністэрстве архітэктуры і будаўніцтва — 8,2% і 0,8%. А ў канцэрне «Белдзяржхарчпром» рэальны заробак вырас на 5,8%, у той час як прадукцыйнасць зменшылася на 4,1%.

І што рабіць? Кожны ведае, што добры фінансавы стан нашых фармацэўтаў збольшага забяспечваецца высокімі коштамі лекаў для насельніцтва. І хоць нельга сказаць, што кілбасы ў нас танныя, але апераджальны рост коштаў на іх, верагодней за ўсё, стане чарговым лекаваннем хворай эканомікі.

Прычым з кілбасаў усё толькі пачнецца.

9

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ

## 21 ВЕРАСНЯ, ПЯТНІЦА

**Беларусь 1**

**06.00, 07.15, 08.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.55** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Камедыйны серыял «Суседзі» (Расія). 4-серыя.
**10.10** Сфера інтарэсаў.
**10.30** Патрабуецца.
**10.45** Актуальнае інтэрв'ю.
**10.55** Крымінальны серыял «Знахар-2. Паляванне без правілаў» (Расія). 4-я серыя.
**12.10** Меладрама «Мой ласкавы і пяшчотны звер» (СССР).



**14.25** Заўтра - гэта мы!
**15.15, 19.20** Рэгіянальная праграма.
**15.25** «Усё як мае быць!» Забаўляльная праграма.
**15.55** Рэспубліканскі фэст-кірмаш «Дажынкі-2012». Прамая трансляцыя.
**19.40** Калыханка.
**19.55** Дакументальны цыкл «Зорнае жыццё» (Украіна).
**21.00** Панарама.
**21.45** Тэлефільм АТН цыклу «Лёс гігантаў».
**22.30** Крымінальны серыял «Знахар-2. Паляванне без правілаў» (Расія). 4-я серыя.
**23.30** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда « (Украіна).
**00.25** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**01.00** Дзень спорту.

**АНТ**

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**09.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.20** «Зразумець. Прабачыць».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фурцава». Шматсерыйны фільм.
**12.05** «Сэрца Марыі». Шматсерыйны фільм.
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** Прэм'ера сезону «Час абедаць!».
**13.50** «Модны прысуд».
**14.55** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Кантрольны закуп».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Чакай мяне». Беларусь.
**18.55** «Поле цудаў».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Прэм'ера. «Адзіны мой грэх». Шматсерыйны фільм.
**22.10** «Клуб вясёлых і знаходлівых». Летні кубак у Сочы.
**00.25** «Гарадскія піжоны». Прэм'ера сезону. «Без сведак».
**00.55** Начныя навіны.

**СТВ**

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Аўтапанарама».
**08.50** Фільм «Мсцівец». ЗША, 2008 г.
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.35** «Званая вячэра».
**12.35** «Барадзін. Вяртанне генерала». Серыял.
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** «Медыкі». Серыял.
**14.40** «Доктар Тырса». Серыял.
**15.30** «Гадзіна суду».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** «Барадзін. Вяртанне генерала». Серыял.
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** Фільм «Вар'яцкі спецпрызын». ЗША-Вялікабрытанія, 2009 г.
**22.25** «ХОР-ШОУ».
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** Прэм'ера: «Пагаворым». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**23.05** «СТБ-спорт».
**23.10** «Сакрэтная тэрыторыя».
**00.00** «Расійская покерная серыя».
**00.50** Прэм'ера! «Адмысловы праект».

**Беларусь 2**

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.Беларусь.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Лигаўка» (Расія).
**10.15** Час футболу.
**11.10** Еш і худзей.
**11.40** Школа рамонту.
**12.45** Страсці па культуры.
**13.30** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА.
**15.30** Народная легенда «Шляхціч Завальня» («Беларусьфільм»).
**17.15** Беларуская кухня.
**17.50** Рэгіянальная праграма.
**18.55** «Халі-галі». Скетч-шоў.
**19.25** Арэна АТН.
**20.20** Фактар сілы.
**20.50** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Бітва экстрасэнсаў.
**22.40** Дэтэктыўны серыял «Лигаўка» (Расія).

**РОССИЯ**

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.05** «Опера. Хронікі забойнага аддзела. Небяспечная сведка».
**11.00** Весці.
**11.30** «Мая планета».
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** «Інстытут высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весці.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** «Аддзел С.С.С.Р.».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весці.
**17.30** Мясцовы час. Весці - Масква.
**17.45** «Кахаю, не магу!».
**18.45** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.



**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весці.
**20.30** «Ключы ад шчасця».
**22.15** «Юрмала - 2012». Фэст гумарыстычных праграм.
**00.05** Навіны - Беларусь.
**00.15** «Маладыя» (2012 г.).

**НТВ**

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.40** Прэм'ера. Серыял «Вяртанне Мухтара».
**09.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**10.00** Сёння.
**10.20** «І зноў добры дзень!».
**11.15** «Да суда».
**12.05** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** «Таямнічая Расія: Саратаўская вобласць. Гняздо рэліктавых змеяў?».
**15.15** «Справа густу».
**15.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.30** «Кажам і паказваем». Ток-шоў.
**18.15** «Прафесія-рэпарцёр».
**18.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Прэм'ера. Вострасюжэтны серыял «Вуліцы пабітых ліхтароў».
**21.25** Дэтэктыўны серыял «Глушэц. Вяртанне».
**00.25** Крымінальная драма «Ноч над Манхэтэнам».

**EUROSPORT**

**00.00** Покер.
**01.00** Снукер: Мастэрс. Шанхай - Дзень 4.
**09.30** Снукер: Мастэрс. Шанхай - Дзень 5.
**12.30** Снукер: Мастэрс. Шанхай - Дзень 5.
**13.45** Снукер: Мастэрс. Шанхай - Дзень 4.
**14.30** Снукер: Мастэрс. Шанхай - Дзень 5.
**17.30** Веласпорт: чэмпіянат свету па гонках Нідэрланды - Мужчыны.
**19.00** Снукер: Мастэрс. Шанхай - Дзень 5.
**20.00** Скачкі на лыжах з трампліна: Летні Гран-пры - Кваліфікацыйны раўнд.
**21.00** Самыя моцныя людзі планеты: Ліга Чэмпіёнаў. Фінляндыя.
**22.00** Бокс.

**БЕЛСАТ tv BELSAT**

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.30** «Пераемнікі», дакументальна-публіцыстычны цыкл.
**07.45** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**08.00** Студыя «Белсат».
**08.30** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**09.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**09.25** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар.
**09.35** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**17.55** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**18.20** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**18.50** Калыханка для самых маленькіх.
**19.00** Студыя «Белсат».
**19.30** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**20.00** Студыя «Белсат».
**20.25** Невядомая Беларусь: «Верасень 1939. Як нас вызвалялі», дак. фільм, 2011 г., Беларусь.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір).
**21.40** «Дзяўчаты з Наваліпак», маст. фільм, 1985 г., Польшча.
**23.10** Аб'ектыў.
**23.40** «Апантаныя», дак. цыкл.
**23.50** «Беларусь – адзін верш», дак. цыкл.
**00.00** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).

## 22 ВЕРАСНЯ, СУБОТА

**Беларусь 1**

**06.35** Існасць.
**07.00** Добрай раніцы, Беларусь!
**09.00, 12.00, 15.00, 19.00** Навіны.
**09.10** Здароўе.
**09.55** Серыял «Вясковая камедыя» (Расія).
**11.00** «Усё як мае быць!» Забаўляльная праграма.
**11.30** Зямельнае пытанне.
**12.15** Мультфільмы.
**12.40** Кінааповесць «Тры тапалі на Плюшчыхе» (СССР).
**14.15** Вакол планеты.
**15.15** Рэгіянальная праграма.
**15.30** Прыгодніцкі серыял «Выспа непатрэбных людзей» (Расія-Украіна).
**17.25** Дакументальны серыял «Неверагодныя гісторыі кахання» (Украіна).
**18.25** Таямніцы следства.
**19.10** Меладрама «Хатняя прыслужніца» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.40** Прыгодніцкі фільм «Лара Крофт-2» (ЗША).



**23.40** Дзень спорту.
**23.50** Серыял «Вясковая камедыя» (Расія).
**00.50** «Перазагрузка». Моладзевае ток-шоў.

**АНТ**

**07.00** «Суботняя раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Смешарыкі. ПІН-код».
**09.30** «Здароўе».
**10.30** «Смак».
**11.20** Тэорыя неверагоднасці.
**12.05** «Апярэджваючы стрэл». Шматсерыйны фільм.
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Ну, пачакай!».
**16.40** «Сяргей Бадроў. Дзе ты, брат?».
**17.40** «Адзін супраць усіх».
**19.30** АНТ прадстаўляе: «Сардэчна запрашаем у Беларусь».
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** АНТ прадстаўляе: «Беларусь у маім сэрцы».
**23.45** Прэм'ера. Фільм «Антон тут побач».

**СТВ**

**06.20** «Сакрэтная тэрыторыя».
**07.10** «Анфас».
**07.25** «Салдаты-14». Серыял.
**09.00** «Я - вандроўца».
**09.30** «Чыстая праца».
**10.25** «Мінск і мінчане».
**11.00** Фільм «Вар'яцкі спецпрызын». ЗША, Вялікабрытанія, 2009 г.
**12.45** «Прыгоды дылетанта».
**13.15** Фільм «Афоня». СССР, 1975 г.
**15.00** «Ваенная таямніца».
**15.55** «Небяспечны месяц».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.45** «Наша справа».
**17.00** «Гучная справа».
**17.35** Фільм «Хімія пачуццяў». Украіна, 2008 г.
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ-спорт».
**20.10** «ХОР-ШОУ». Фінал.
**21.15** Фільм «Механік». ЗША, 2010 г.
**23.05** «Канферэнцыя маньякаў». Серыял.

**Беларусь 2**

**06.50** Дэтэктыўны серыял «Лігаўка».
**08.50** Школа рамонту.
**09.55** Пад грыфам «Вядомыя».
**10.30** Тэлебарометр.
**10.35** Наперад у мінулае.
**11.10** Беларуская кухня.
**11.45** Шоў «Суперінтуіцыя».
**12.55** Хакей. КХЛ. Прамая трансляцыя.
**15.15** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. Агляд тура.
**16.15** Меладрама «Жорсткі раманс» (СССР). 1-я і 2-я серыі.



**19.00** Ваша лато.
**19.40** Латарэя «Пяцёрачка».
**19.50** Бітва экстрасэнсаў.
**21.00** КЕНО.
**21.05** Тэлебарометр.
**21.10** Бітва экстрасэнсаў.
**22.20** Ваенная меладрама «За гранню» (ЗША-Германія).
**00.35** Шоў «Суперінтуіцыя».

**РОССИЯ**

**07.00** «Юрмала - 2012». Фэст гумарыстычных праграм.
**08.35** «Маладыя» (2012 г.).
**10.25** «Ранішняя@пошта».
**11.00** Весці.
**11.15** «Мая планета. Белая птушка Ўдмуртыі».
**12.00** «Ха». Маленькія камедыі.
**12.15** «Блудныя дзеці».
**14.00** Весці.
**14.15** «Сумленны дэтэктыў». Аўтарская праграма Эдуарда Пятрова.
**14.50** «Гарадок». Дайджэст. Забаўляльная праграма.
**16.10** «Каўказскі палонны. Сяргей Бадроў-малодшы».
**17.10** «Суботні вечар».
**19.00** «Выява свету».
**19.55** Надвор'е на тыдзень.
**20.00** Весці ў суботу.
**20.40** «Бацькоўскі інстынкт» (2012 г.).
**00.10** «Мелодыя кахання» (2010 г.).

**НТВ**

**06.20** Дэтэктыўны серыял «Мужы».
**08.00** Сёння.
**08.20** «Жывуць жа людзі!».
**08.50** «Іх норавы».
**09.25** «Справа густу».
**10.00** Сёння.
**10.20** Галоўная дарога.
**10.55** «Кулінарны паядынак» з Оскарам Кучэрам.
**11.55** «Кватэрнае пытанне».
**13.00** Сёння.
**13.15** Прэм'ера. Серыял «Адвакат».
**15.05** «Жаночы погляд» з Аксанай Пушкінай.
**16.00** Сёння.
**16.20** Следства вялі.
**17.10** «Вочная стаўка».
**18.05** Выратавальнікі.
**18.30** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.30** «Прафесія-рэпарцёр».
**20.00** «Праграма Максімум. Расследаванні, якія тычацца кожнага».
**21.10** «Руская сенсацыя». Інфармацыйны дэтэктыў.
**22.10** «Ты не паверыш!».
**23.10** «Прамень Святла».
**23.40** Крымінальная драма «Мітусня і рух».

**EUROSPORT**

**00.00** Боўлінг: ЗША.
**01.00** Снукер: Мастэрс. Шанхай - Дзень 5.
**09.30** Снукер: Мастэрс. Шанхай.
**12.00** Скачкі на лыжах з трампліна: Летні Гран-пры - Кваліфікацыйны раўнд.
**13.00** Футбол: Кубак свету да 17 гадоў. Азербайджан - Групавы этап:Францыя - ЗША.
**15.00** Скачкі на лыжах з трампліна: Летні Гран-пры - HS 140.
**16.15** Веласпорт: чэмпіянат свету па гонках Нідэрланды - Жанчыны.
**19.00** Футбол: Кубак свету да 17 гадоў. Азербайджан - Групавы этап:Азербайджан - Калумбія.
**19.45** Снукер: Мастэрс. Шанхай.
**22.00** Конны спорт: Вена.
**23.30** Скачкі на лыжах з трампліна: Летні Гран-пры - HS 140.

**БЕЛСАТ tv BELSAT**

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.30** ПраСвет.
**08.00** Студыя «Белсат».
**08.25** Невядомая Беларусь: «Верасень 1939. Як нас вызвалялі», дак. фільм, 2011 г., Беларусь.
**09.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**09.25** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар.
**09.40** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**18.00** «Пераемнікі», дакументальна-публіцыстычны цыкл.
**18.15** Еўропа сёння.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Аповеды таты Бабра».
**19.00** «Апошняя змова Сталіна», дак. фільм, 2009 г., Францыя.
**19.55** Навігатар (інфармацыйна-публіцыстычны тэлечасопіс).
**20.10** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**20.45** Назад у будучыню.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.15** Два на два (тэледыскусія).
**21.40** Суботні сеанс: «Амалья», драма, 2008 г., Партугалія.
**23.50** «Інстынкт», дэтэктыўны серыял: 3 серыя.
**00.40** Аб'ектыў.
**00.55** Жаўтуха (сатырычная праграма).

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ



## 23 верасня, нядзеля

**Беларусь 1**

**06.25** Кінааповесць «Тры таполі на Плюшчысе» (СССР).
**07.55** Дакументальны серыял «Майстар вандраванняў» (ЗША).
**08.25** Медычныя таямніцы.
**09.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.40** Серыял «Вясковая камедыя» (Расія).
**11.10** Тэлефільм АТН цыклу «Лёс гігантаў».
**12.00** Навіны.
**12.10** Культурныя людзі +.
**13.00** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда « (Украіна).
**14.15** Клуб рэдактараў.
**15.00** Навіны.
**15.25** Прыгодніцкі фільм «Выспа непатрэбных людзей» (Расія-Украіна).
**17.40** Каробка перадач .
**18.10** «Славянскі базар-2012».
**19.10** Камедыя «Час радасці» (Расія).
**21.00** «Выбары-2012». Інфармацыйны канал.
**22.35** Тэлефільм АТН цыклу «Журналісцкае расследаванне».
**23.10** Баявік «Генеральская дачка» (ЗША).
**01.05** Серыял «Вясковая камедыя» (Расія).

**ОНТ**

**07.00, 08.00, 09.00** Нашы навіны.
**07.10** АНТ прадстаўляе: «Нядзельная раніца».
**09.10** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.25** «Смешарыкі. ПІН-код».
**09.55** «Шалапутныя нататкі».
**10.15** Пакуль усе дома.
**11.00** Нашы навіны.
**11.10** «Фазэнда».
**12.00** Нашы навіны.
**12.10** АНТ прадстаўляе: «Брэйн-рынг».
**13.00** Нашы навіны.
**13.10** Камедыя «За запалкамі».
**15.00** Нашы навіны.
**15.10** Фільм «Белыя росы».
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Фільм «Белыя росы». Працяг.
**17.00** Нашы навіны.
**17.20** АНТ прадстаўляе: «Рыцарскі турнір у Мірскім замку».
**18.00** Нашы навіны.
**18.20** Фільм «Элвіс пакінуў будынак».
**20.00** Контуры.
**21.30** «Вялікая розніца ў Адэсе». Фэст пародый.
**22.00** Нашы навіны.
**22.10** «Вялікая розніца ў Адэсе». Працяг.
**23.00** Нашы навіны.
**23.10** «Вялікая розніца ў Адэсе». Працяг.
**00.00** Нашы навіны.
**00.15** Камедыя «Неверагодныя прыгоды італьянцаў у Расіі».

**СТВ**

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**07.05** «Далёкія сваякі».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «Салдаты-14». Серыял.
**09.15** «Аўтапанарама».
**09.45** «Жыць будзеце».
**10.00** «100 адсоткаў».
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Вялікі сняданак».
**11.20** Фільм «Механік». ЗША, 2010г.
**12.55** «Добры дзень, доктар».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** Фільм «Дарослыя дзеці». СССР, 1962 г.
**15.15** Ток-шоў «Такі лёс».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «ХОР-ШОУ». Фінал.
**18.00** Канцэрт М.Задорнава.
**19.00** «Аўтапанарама».
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.50** Фільм «Знячуленне». ЗША, 2007 г.
**22.30** «24 гадзіны».
**23.05** «Пякельная кухня».
**00.30** «Пяць гісторый».
**01.00** «24 гадзіны».
**01.10** Фільм «Серафіна з Санліса». Францыя-Бельгія, 2008 г. (пачатак).
**03.00** «24 гадзіны».
**03.10** Фільм «Серафіна з Санліса». Францыя-Бельгія, 2008 г. (канчатак).

**Беларусь 2**

**07.25** Меладрама «Жорсткі раманс» (СССР). 1-я і 2-я серыі.
**10.05** Тэлебарометр.
**10.10** Школа рамонту.
**11.15** Вышэй за дах.
**11.50** Шоў «Суперінтуіцыя».
**13.05** Прыгодніцкі фільм «Начальнік Чукоткі» (СССР).
**14.55** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА.
**15.25** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Прэм'ерліга. Прамая трансляцыя.
**17.25** Лірычная камедыя «Тыя, што не паддаюцца» (СССР).
**18.55** Суперлато.
**19.40** Спорт-кадр.
**20.25** Навіны надвор'я.
**21.00** Спортлато 5 з 36.
**21.05** КЕНО.
**21.10** Трылер «Сведка» (ЗША).
**23.15** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Прэм'ерліга.
**01.05** Шоў «Суперінтуіцыя».

**Россия**

**07.00** «Бацькоўскі інстынкт». 2012 г.
**10.15** «Сам сабе рэжысёр».
**11.00** Весці.
**11.15** «Смехапанарама Яўгенія Петрасяна».
**11.45** «У свеце жывёл».
**12.15** «Блудныя дзеці».
**13.50** Навіны-Беларусь.
**14.00** Весці.
**14.15** «Дэтэктар хлусні. Жэсты».
**15.15** «Гарадок». Дайджэст. Забаўляльная праграма.
**16.05** «Розныя лёсы».
**16.50** Навіны-Беларусь.
**17.00** «Розныя лёсы». Працяг.
**18.05** «Смяяцца дазваляецца». Гумарыстычная праграма.
**19.50** Навіны-Беларусь.
**20.00** Весці тыдня.
**21.25** «Абмяняйцеся пярсцёнкамі». 2012 г.
**23.25** Навіны-Беларусь.
**23.35** 1/4 фіналу Першай лігі Міжнароднага звяза КВЗ.
**01.15** Навіны-Беларусь.

**НТВ**

**06.20** Дэтэктыўны серыял «Мужы».
**08.00** Сёння.
**08.20** «Жывуць жа людзі!».
**08.50** «Іх норавы».
**09.25** «Ямо хаты!».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Першая передача». Аўтамабільная праграма.
**10.55** «Дачны адказ».
**12.00** «Развод па-руску».
**13.00** Сёння.
**13.20** Серыял «Адвакат».
**15.10** «Таямнічая Расія: Тульская вобласць. Таямніцы вядзьмарскіх камянёў».
**16.00** Сёння.
**16.20** Следства вялі.
**17.10** «І зноў добры дзень!».
**18.05** «Бывае ж такое!».
**18.30** Надзвычайнае здарэнне. Агляд за тыдзень.
**19.00** «Сёння. Выніковая праграма».
**20.00** «Чыстасардэчнае прызнанне».
**21.45** «Таемны шоў-бізнэс».
**22.45** «Венік». Ток-шоў.
**23.45** Вострасюжэтны баявік «Зброя».

**Eurosport**

**00.15** Чэмпіянат свету ў класе Турынг: Сан-Францыска - Кваліфікацыйны раўнд.
**01.00** Веласпорт: чэмпіянат свету па гонках Нідэрланды - Жанчыны.
**02.00** Снукер: Мастэрс. Шанхай.
**09.30** Снукер: Мастэрс. Шанхай - Фінал.
**12.00** Веласпорт: чэмпіянат свету па гонках Нідэрланды - Мужчыны.
**18.15** Супербайк: Чэмпіянат свету. Партугалія – 1-я спроба.
**18.45** Супербайк: Чэмпіянат свету. Партугалія – 2-я спроба.
**19.30** Чэмпіянат свету ў класе Турынг: Сан-Францыска - Размінка.
**20.00** Аўта і Мотаспорт: Мотаспартыўны часопіс.
**20.15** Снукер: Мастэрс. Шанхай - Фінал.
**22.00** Чэмпіянат свету ў класе Турынг: Сан-Францыска.

**Белсат tv / BELSAT**

**07.00** Аб'ектыў.
**07.15** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**07.45** Казкі для дзетак.
**08.20** «Школа на санцапёку», серыял: 13 серыя.
**08.50** «Мой родны горад», серыял: 30 серыя.
**09.15** «Апошняя змова Сталіна», дак. фільм, 2009 г., Францыя.
**17.50** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**18.15** Два на два (тэледыскусія).
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Аповеды таты Бабра».
**18.55** «Сенсацыі XX стагоддзя», серыял: «Двубой у Вэнлё».
**19.50** Прэс-экспрэс (агляд медыяў).
**20.05** Дакументальная гадзіна: «Масква ад золку да змяркання», дак. фільм, 2011 г., Польшча.
**21.00** Тыдзень у «Аб'ектыве».
**21.15** Эксперт (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**21.45** Форум (ток-шоў).
**22.35** Фільматэка майстроў: «Быць Джульяй», маст. фільм, 2004 г., ЗША–Брытанія–Канада.
**00.15** Тыдзень у «Аб'ектыве».
**00.35** Прэс-экспрэс (агляд медыяў).
**00.50** «Бульбаны», мультсерыял.

# Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма набыць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час» і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). Нашы рэквізіты: **рахунак 3012741108019 у аддзяленні №539 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

Акрамя таго падпісацца можна ў офісе і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:

Магілёў: (8 029) 604 34 57 Юрый;
Мінск: (8029) 178 31 68 Вольга;
Бабруйск: (8029) 628 75 01 Вольга;
Слуцк: (8044) 755 66 48 Марына.

БЕЛПОЧТА

ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ ________
почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС ________

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ____________
Время приема _______ ч. _____ мин.
Подпись

## Паважаныя чытачы!

Кошт аднаго нумара газеты да 1200 руб., аднаго месяца — 4800 руб. Дзякуй вам за разуменне і падтрымку!

Запрашаем да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.

**Даведка па тэл. (8 029) 651 21 12.**

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)
Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739
УНП* 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик

Пеня ______
Всего ______

Кассир

ВЫБАРЫ

# БІТВА СЛОГАНАЎ

Алег НОВІКАЎ

**Абавязковай часткай выбарчай кампаніі кожнага кандыдата ў прэзідэнты ЗША з'яўляецца слоган. Часам ён можа нават вырашыць лёс усёй гонкі.**




Герой Другой сусветнай вайны Айк Эйзенхаўэр пайшоў на выбары 1952 года пад дастаткова міралюбным лозунгам «I like Ike» («Мне падабаецца Айк»)

За прыкладам далёка хадзіць не трэба. Слоганы «We can» («Мы можам) і «Change» («Перамен») сталі візітнай карткай Абамы на выбарах 2008 года. Гэтыя фразы былі надрукаваныя на майках, кубках, плакатах... Мабілізацыйны эфект гэтых слоганаў відавочны.

Увогуле, сама традыцыя прыдумляць лозунгі пад кандыдатаў у прэзідэнты была закладзеная ў 1840 годзе. Піянерам стаў кандыдат ад партыі вігаў Вільям Гарысан, якому на старце выбараў стукнула 67 гадоў. Гарысан ішоў на выбары пад дэвізам «Tippecanoe and Tyler too» («Тыпекану і Тайлер»). Сама фраза была ўзятая з песні, прысвечанай славутай у свой час бітве амерыканцаў з індзейцамі пад Тыпекану. Войскі ЗША вёў у бой губернатар Індыяны, той самы Вільям Гарысан, яго пазней празвалі Тыпекану, або Стары Тыпекану. Тайлер ішоў віцэ-прэзідэнтам. Перамога над індзейцамі мела важнае сімвалічнае значэнне для маладых Злучаных Штатаў Амерыкі ў барацьбе з Вялікабрытаніяй, якая не пакідала надзей вярнуць калоніі ў свой склад, у тым ліку і рукамі чырванаскурых. У выніку кандыдат партыі вігаў сапраўды перамог, аднак перамога аказалася піравай.

У дзень прысягі 4 сакавіка надвор'е было вельмі халодным, але прэзідэнт вырашыў паказаць, што ён такі ж непахісны герой, што і трыццаць гадоў таму пры Тыпекану; ён прамовіў двухгадзінны інаўгурацыйны спіч, самы доўгі ў амерыканскай гісторыі, стоячы на ветры без капелюшу і паліто. У выніку застудзіўся, прастуда перайшла ў запаленне лёгкіх. Лекары прыкладвалі да яго цела нават жывых змей, але гэта не дапамагло. Гарысан прабыў кіраўніком амерыканскай дзяржавы менш за ўсіх іншых прэзідэнтаў: 32 дні, 12 гадзін і 30 хвілін.

Пазней з'явілася легенда, што смерць Гарысана стала вынікам праклёну, які наклаў перад смерцю правадыр індзейцаў Тэкумсе. Некаторыя адносяць да «праклёну Тэкумсе» і той факт, што, пачынаючы з Гарысана, усе прэзідэнты акрамя Рэйгана, абраныя ці пераабраныя ў год, які заканчваецца на нуль, паміралі ці былі забіты на сваёй пасадзе.

Нягледзячы на такі мінорны дэбют, ідэя выбарчых слоганаў спадабалася янкі. За апошнія 170 гадоў было прыдумана шмат чаго. Хаця часам лозунгі паўтараюцца. Так, у 1864 годзе Абрахам Лінкальн падчас пераабрання на другі тэрмін выкарыстаў лозунг «Коней не пераправе не мяняюць». Менавіта гэты лозунг ужыў Франклін Рузвельт у 1936-м і Джордж Буш-старэйшы ў 1992 годзе.

А ў 1868-м быў прыдуманы, здаецца, самы баявы слоган за ўсю гісторыю прэзідэнцкіх выбараў. Ён належыць кандыдату-рэспубліканцаў Улісу Гранту (глядзі яго выяву на купюры ў 50 долараў) і гучыць так: «Vote as You Shot» («Галасуй так, быццам ты страляеш»). Хаця, з іншага боку, тут няма нічога дзіўнага. Імідж Гранта будаваўся на яго подзвігах на пасадзе камандуючага арміі Саюза падчас грамадзянскай вайны.

Праўда, не ўсе кандыдаты — былыя вайскоўцы мелі такія ваяўнічыя дэвізы. Так, герой Другой сусветнай вайны Айк Эйзенхаўэр пайшоў на выбары 1952 года пад дастаткова міралюбным лозунгам «I like Ike» («Мне падабаецца Айк»). Калі ў 1956-м пачалася кампанія за яго пераабранне, прэзідэнт проста падкарэктаваў папярэдні выраз: «I still like Ike» («Мне па-ранейшаму падабаецца Айк»). І зноў перамог.

Акрамя таго, часам на выбарах дамінавалі міралюбныя настроі. Уран Гардзінг на выбарах 1920 года кінуў у масы лозунг «Return to normalcy» («Вяртанне да нармальнасці»), маючы пад словам «нармальнасць» часы, якія папярэднічалі Першай сусветнай вайне. Як гэты выраз пра «нармальнасць» не падобны на лозунг Кенэдзі падчас кампаніі 1960 года: «A time for greatness» («Час для вялікіх рэчаў»). Або да месіджа Лінды Джонсана ў 1964-м: «The stakes are too high for you to stay at home» («Стаўкі занадта вялікія, каб вы заставаліся дома»).

Некаторыя лозунгі проста смярдзяць папулізмам. Напрыклад, «A Full Dinner Pail» («Поўная талерка да вячэры»). Фраза была прыдумана для Уільяма Мак Кінлі на выбарах 1900-га. Ці абяцанне ад Герберта Гувера ў 1928-м: «A chicken in every pot and a car in every garage» («Кураня ў кожнай каструлі і машына ў кожным гаражы»).

Некаторыя слоганы выглядаюць папросту экзатычна. Напрыклад, месідж рэспубліканцаў на выбарах 1884-га: «Rum, Romanism and Rebellion» («Ром, рамантыка і бунт»). Сэнс фразы ў тым, што галоўнымі канкурэнтам кандыдата ад рэспубліканцаў быў прадстаўнік партыі, якая выступала за забарону алкаголю. У 1920 годзе, калі прыхільнікі сухога закону змагаліся супраць Джэймса Кокса, які выступаў за адмену сухога закону. Яны абыгралі прозвішча палітыка, якое гучыць таксама як назва какаіну. Антыкоксаўскі лозунг гучаў так: «Cox and Cocktails» («Кокс і кактэйль»).

МакКейн — кандыдат у прэзідэнты на выбарах 2008 года, хаця і прайграў Абаме, застанецца ў гісторыі дзякуючы аднаму са сваіх перадвыбарчых слоганаў — «Drill, baby, Drill!» («Буры, дзетка, буры!»). Ідэя закліку палягала ў тым, што ЗША павінны шукаць нафту ў сябе дома, а не ваяваць за стратэгічны рэсурс па ўсёй планеце.

Часам выбарчыя лозунгі супярэчылі таму, што рабілі палітыкі, калі прыходзілі да ўлады. Так, Вудра Вільсан пераабраўся на выбарах 1916 года пад лозунгам «He kept us out of war» («Ён захаваў нас ад вайны»). А ўжо ў наступным годзе Штаты ўступілі ў Першую сусветную на баку Антанты.




Часам лозунгі кандыдатаў гучаць вельмі амбіцыйна: «Keep Cool and Keep Coolidge» («Заставайся крутым і заставайся з Куліджам»), «Who but Hoover?» («Хто, калі не Гувер?»). Аднак усіх, здаецца, пераплюнуў Гары Трумэн у 1948-м. Месіджам яго кампаніі словы з песні «I'm Just Wild About Harry» («Я балдзею ад Гары»). Нарэшце, варта нагадаць лозунг незалежнага кандыдата Роса Перо ў 1992 годзе — «Ross for Boss» («Роса ў босы»).

Часам лозунгі кандыдата накіраваныя супраць канкурэнта. У 1980 годзе ўсім запомніліся словы Рональда Рэйгана: «Are You Better Off Than You Were Four Years Ago?» («Ці лепш вам цяпер, чым чатыры гады таму?»). Роні яўна ўказваў на правалы курсу Джымі Картэра. На мяжы фолу быў слоган Біла Клінтана ў 1992 годзе, адрасаваны Джорджу Бушу-старэйшаму: «It's the economy, stupid» («Гэта эканоміка, дурань»).

Пачынаючы з кампаніі 1964 года слоганы кандыдатаў часта пераробліваюцца іх апанентамі з мэтай дыскрэдытацыі. «In Your Heart, You Know He's Right» («У сваім сэрцы ты разумееш, што ён правы»), — заявіў у 1964 годзе лозунг ультракансерватыўнага кандыдата-рэспубліканца Бары Галдуотэра. І адразу яго апаненты пачалі скандаваць на мітынгах: «In Your Guts, You Know He's Nuts» («Унутры ты разумееш, што ён вар'ят»). У 1992 годзе, калі Буш-старэйшы спрабаваў пераабрацца, выкарыстоўваючы славутую фразу пра тое, што коней на пераправе не мяняюць, узнік выраз «Don't change horsemen in mid-apocalypse» («Падчас апакаліпсіса вершнікаў не мяняюць»).

Цяперашняя кампанія пакуль не вельмі арыгінальная, хаця Ромні ўжо прапанаваў цэлы пакет слоганаў: «Believe in America» («З верай у Амерыку»), «Restore America Now» («Адрадзіць Амерыку цяпер»), «Obama Isn't Working» («Абама не працуе»). Дарэчы, апошні лозунг — яўны плагіят з Маргарэт Тэтчэр, якая агітавала за торы ў 1979 годзе: «Labour Isn't Working» («Лейбарысцты не працуюць»).

На ўсё гэта Абама пакуль адказвае лозунгам «Forward» («Наперад»).

Паглядзім, які слоган больш спадабаецца амерыканцам.

## ЯНЫ ПРА НАС: ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

У Бішкеку здзіўляюцца, чаму Лукашэнку такія дарагія прадстаўнікі клана Бакіевых, і чаму дзеля былога прэзідэнта ён гатовы псаваць адносіны з цяперашнім. Шматлікіх кіргізаў дзівіць і тое, што беларускі прэзідэнт, кіруючыся не цалкам яснымі матывамі, гатовы сапсаваць адносіны і з Казахстанам (Казахстан лабіруе ўступленне Кіргізіі ў Мытны саюз). Калі такі падыход возьме верх у іншых сферах адносін паміж гэтымі краінамі, функцыянаванне механізмаў узаемадзеяння ў Мытным саюзе можа быць вельмі не простым.

**«Росбалт» (Расія)**

Беларусь не рухаецца ў бок дэмакратыі і прававой дзяржавы. Выпусціўшы на волю шэраг беларускіх апазіцыянераў, Лукашэнка дабіўся адмены Еўрасаюзам санкцый, што было расцэнена еўрапейскімі краінамі як «крок у бок Еўропы». У сапраўднасці ж Лукашэнка займаўся сваёй улюбёнай справай — сутыкаў ілбамі Еўропу з Расіяй, робячы крок у адзін бок, а потым два ў іншы.

**«Tagesspiegel» (Германія)**

Нават калі спосабы процідзеяння іншадумству будуць звышсучаснымі, сутнасць яго застанецца такой жа дрымучай, паколькі адлюстроўвае ідэалогію беларускай улады — запалохаць нязгодных. Але перамагчы ў гэтай інфармацыйнай вайне рэжым не здольны. Аўдыторыя беларусаў у Сусветным павуцінні складае больш за 4 мільёны чалавек. Краіна лідзіруе і ў рэйтынгу маладых інтэрнэт-аўдыторый Усходняй і Цэнтральнай Еўропы. Што можа супрацьпаставіць гэтаму беларуская ўлада са сваімі спецслужбамі, якая толькі памнажае шэрагі апанентаў прымітыўным закручваннем гаек?

**«Deutche Welle» (Германія)**

Беларуская эканоміка зноў перажывае цяжкія часы. У краіне ходзяць чуткі, што пасля парламенцкіх выбараў, якія адбудуцца ў верасні, краіну чакае чарговая дэвальвацыя беларускай нацыянальнай валюты і новы віток росту коштаў на асноўныя тавары народнага спажывання. Праблема вось у чым: у Беларусі зноў стаў расці паказчык імпарту, а золатавалютныя рэзервы змяншаюцца. Па выніках жніўня 2012 года золатавалютныя рэзервы Беларусі скараціліся на 89 мільёнаў долараў. Пакуль яны знаходзяцца на прымальным узроўні, перавышаючы 8,15 мільярда долараў. Але тэндэнцыя трывожная: менавіта рост імпарту прывёў да спусташэння рэзерваў пару гадоў таму і леташняй трохразовай дэвальвацыі беларускага рубля.

**«Эксперт» (Расія)**

Знішчыць кантэнт усіх сеткавых супольнасцяў, якія аб'ядноўваюць палітычных апанентаў Лукашэнка ці нават не палітызаваных карыстальнікаў інтэрнэту, што разглядаюць беларускага прэзідэнта як камедыйнага персанажа, відавочна, нерэальна. Ды і з усіх пунктаў гледжання бессэнсоўна. Замест адной супольнасці, які апынуўся пад пільным наглядам спецслужбаў, адразу ўзнікае іншая ці нават некалькі аналагічных. Хутчэй за ўсё, нейкія начальнікі аддалі ўказанне зрабіць эфектны жэст. Ён быў зроблены. Але практычны рэальны эфект ад гэтай акцыі — не такі вялікі.

**«Radio France Internacional» (Францыя)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ЗША. ПАЧАЛОСЯ ДАТЭРМІНОВАЕ ГАЛАСАВАННЕ



Нягледзячы на тое, што вядучыя партыі толькі-толькі афіцыйна назвалі сваіх кандыдатаў на пасаду прэзідэнта, у 32 штатах краіны пачалося датэрміновае галасаванне. А ў Паўночнай Караліне выбарчыя ўчасткі ўвогуле адчыніліся яшчэ да таго, як закончыўся з'езд дэмакратаў. Па падліках сацыёлагаў, да 6 лістапада (дзень выбараў) прагаласуюць прыкладна 33 працэнты выбаршчыкаў. Абсалютным рэкардсменам з'яўляецца штат Каларада, дзе на мінулых выбарах датэрмінова прагаласавала 78 працэнтаў электарату. Галоўным чынам гэта тыя, хто будзе заняты ў дзень выбараў, які традыцыйна прыпадае на панядзелак. Інстытут датэрміновага галасавання шмат каму не падабаецца. Перш за ўсё рэспубліканцам. Бедныя і беспрацоўныя, якія звычайна падтрымліваюць дэмакратаў, маюць больш часу і ахвотна галасуюць датэрмінова. Таксама на карысць дэмакратаў ладзяць імшы ў нядзелю ў пратэстанцкіх афраамерыканскіх камунах, дзе святары агітуюць пасля заканчэння службы ісці і галасаваць самі ведаеце за каго. З гэтай прычыны рэспубліканскія губернатары намагаюцца скараціць час датэрміновага галасавання. Апошні раз такі закон быў прыняты ў Фларыдзе, дзе цяпер галасаваць можна толькі за 10 дзён, з 27 кастрычніка. Наколькі новае заканадаўства дапаможа рэспубліканцам, хутка пакажа статыстыка.

**Паводле французскай прэсы**

### МАЛДОВА. ЗА ЗАКЛІК ДА АБ'ЯДНАНЯ – У ТУРМУ

Выканаўчы камітэт Гагаузіі, аўтаномнай адміністратыўнай адзінкі Малдовы, зацвердзіў законапраект, у адпаведнасці з якім асобы, якія заклікаюць да ліквідацыі дзяржаўнасці Рэспублікі Малдова, будуць прыцягвацца да крымінальнай адказнасці. Адначасова праект закона «Пра ўнясенне змен і дадаткаў у Крымінальны кодэкс Рэспублікі Малдова» накіраваны на разгляд Народнага Збору Гагаузіі для вылучэння ў якасці заканадаўчай ініцыятывы ў парламент Малдовы. Акрамя таго, у законе ёсць праект дапаўненняў у артыкул 347 УК РМ, якім прадугледжана ўзмацніць жорсткасць пакарання для грамадзян, што здзекаваліся з дзяржаўных сімвалаў. Відавочна, ініцыятыва гагаузаў накіравана супраць альянсу ўрадавых партый, якія выступаюць за ўваходжанне Малдовы ў склад Румыніі. Апошнім часам «юніяністы» — так называюць прыхільнікаў аб'яднання — паспрабавалі рабіць выязныя маршы ў раёнах, якія кантралююцца апазіцыяй. Як правіла, усё заканчвалася бойкамі. Цяпер гагаузы атрымалі законнае права арыштоўваць юніяністаў у выпадку іх няпрошаных візітаў.

**Паводле малдаўскай прэсы**

### ГЕРМАНІЯ. МЕРКЕЛЬ АДМАЎЛЯЕЦЦА ПРЫЗНАЦЬ ГЕНАЦЫД

Нямецкая левая грамадскасць патрабуе ад улады афіцыйна прызнаць, што вайсковыя аперацыі нямецкай арміі ў 1905–1907 гадах у Намібіі (на той час краіна была калоніяй Германіі) падпадаюць пад артыкул «генацыд». Як вядома, тады супраць каланізатараў паўсталі плямёны герэра і нама. Падчас падаўлення паўстання нямецкія жаўнеры знішчылі цывільнае насельніцтва, што, на думку левых, адпавядае паняццю «генацыд». Яшчэ ў мінулым годзе дэпутат фракцыі партыі Левыя зрабіў адпаведны запыт у канцылярыю Меркель. Нарэшце прыйшоў адказ. Напрыканцы жніўня ў прэсу трапіла спецыяльная заява ўраду кансерватараў і лібералаў, у якой гаворыцца: «Германія ніколі не праводзіла палітыку знішчэння народаў герэра і нама». Тэзіс спрэчны, паколькі захавалася шмат мемуарнай літаратуры пра тыя падзеі. Напрыклад, камандуючы нямецкім корпусам Лотар фон Трота адкрытым тэкстам даваў сваім салдатам загад: «Усе герэра павіны быць знішчаныя». Аглядальнікі пішуць, што Берлін папросту не жадае плаціць кампенсацыю, што цалкам магчыма, калі Намібія звернецца ў міжнародныя судовыя органы. Дарэчы, у пераліку на адну асобу, у рамках нямецкай гуманітарнай дапамогі, Намібія атрымлівае грошай больш за ўсе іншыя краіны.

**Паводле нямецкай прэсы**



▸ З НАГОДЫ

# ЦАР-ПТУШКА, УЛАДАР НЯБЁСАЎ

**Алег НОВІКАЎ**

**Шмат хто з рускіх пабачыў у палёце Пуціна з жураўлямі элементы нейкага невядомага рэлігійнага культу. Прапануем агляд расійскіх блогаў і аналітыкі на гэтую тэму.**



Прэзідэнт Расіі на дэльтаплане дапамагаў жураўлям знайсці шлях на Поўдзень. Навіна, як кажуць, узарвала грамадскую думку. Як правіла, сцэна палёту Пуціна выклікала смех. Карыстальнікі сеціва прапануюць сабраць усіх айчынных vip-чыноўнікаў «у адзін клін і адправіць у Афрыку на корм гіенам» або «арганізаваць пілатаваны палёт на Сонца з удзелам падобных таварышаў».

Затое другое месца ў блогасферы стабільна займаюць каментары, аўтары якіх кажуць, што адчулі ад пабачанай сцэны прыліў жаху.

«Мяне чамусьці жураўлі з Пуціным на чале не насмяшылі. У мяне з'явілася ірацыянальная трывога», — піша адзін з блогераў. Такой жа думкі трымаецца і вядомая журналістка Ксенія Сабчак. У яе карціна жураўлінага кліну з Пуціным на чале ў небе выклікала пачуццё таго, што набліжаецца апакаліпсіс.

Адсюль адзін крок да таго, каб трактаваць жураўліны клін Пуціна як нейкі таямнічы рытуал. Да такой высновы штурхае і нежаданне прызнаць Пуціна закончаным вар'ятам. Проста не хочацца верыць у дыягназ, якія шматлікія блогеры ставяць гаспадару Крамля.

«Сітуацыя значна горшая. Улада канчаткова і беззваротна запала ў маразм. У СССР смяяліся з таго, як Брэжнеў вешае на сябе ордэны. І, здавалася, сапраўды, ну навошта смяшыць народ? Не вешай сабе ўвесь час ордэны і не з'яўляйся ў іх на публіцы. І ўсё. Але чалавеку, які не пакутуе на маразм, гэта лёгка зразумець. А маразматыку? Відавочна, для яго неспасціжная гэта простая праўда. А ліслівае асяроддзе баіцца штосьці сказаць супраць», — піша блогер Ёfgtr.

Як магчымы варыянт доказу таго, што Пуцін псіхічна здаровы, прапануецца ідэя пра тое, што ў Крамлі забаўляюцца нейкімі магічнымі штучкамі. Тым больш, што ў аўтарытарных краінах такія рэчы сустракаюцца вельмі часта. Дастаткова ўзгадаць, як у Гаіці падчас дыктатуры Дзювалье насіліся з культам вуду. Па сутнасці, элементы паганскіх культаў прысутнічаюць і ў святе «Дажынкі».

Адсюль каментары кшталту: «Пуцін у пошуках папулярнасці вырашыў увасобіць сабой маці-прыроду. Гэта ўсё адно, як на першамайскую дэманстрацыю Хрушчоў выйшаў бы ў касцюме кукурузы. Я асабіста нічога фенаменальнага тут не бачу — тут, прынамсі, без падману, як з амфарамі. Палёт Пуціна ўражвае не нашмат мацней, чым пастаянныя эпатажныя акцыі яго былога сябра, Берлусконі, які, скажам, мог прылюдна пацалаваць упадабаную ім жанчыну».

Блогер Combo адзначае: «У жураўліным палёце, які стаў ахвярай крытыкі прыземленых абывацеляў, ёсць насамрэч штосьці сакральнае, штосьці такое, ад чаго шчыміць сэрца. Нешта такое, што хапае за душу, за горла тонкімі пальцамі. Прэзідэнт-журавель — гэта памяць пра старажытныя лясныя містэрыі, пра таемныя паганскія пераўвасабленні, пра Дзікае Паляванне каралёў Поўначы! Нараджаецца ідэя, асляпляльная, зіготкая, усёпаглынальная ідэя Вялікай містэрыі. Цар-птушка, уладар нябёсаў, Птушыны змей — Кецалькаатль».

Тэзу пра метафізіку жураўлінага кліну актыўна падтрымалі некаторыя прапуцінскія СМІ. Вось што піша Аляксандр Праханаў: «У Пуціне ёсць штосьці сапраўды загадкавае, таямнічае, метафізічнае... Можа, у ім прысутнічае анёл ці якая-небудзь іншая крылатая істота. Ці птушка. І ён сам спрабуе разгадаць у сабе вось гэту таямнічую сутнасць, ён спрабуе свет».

Адзінае, што не могуць зразумець аўтары тэорый пра загадкавы свет Пуціна, якую глабальную ідэю ўтрымлівае віраж яго дэльтаплану?

Чырвона-карычневыя пабачылі тут праяву прыроды савецкага чалавека: «У акцыі з жураўлямі прысутнічае рэха савецкай нерэалізаванай мары. А я добра ведаю, што такое савецкая нерэалізаваная мара. Яна сядзіць унутры. Пакуль не вырвеш — не чалавек».

Іншыя лічаць, што гэта быў пратэст супраць інтэрнэту, дзе, як вядома, акапаліся апаненты рэжыму. «Яго палёт каштоўны для тых грамадзян краіны, якія не зусім яшчэ перамясціліся ў віртуал, — лічаць «Известия». — Яго забаўны палёт — не піяр... Ён проста рэальна хацеў паляцець, хоць ведае, як гэта адгукнецца. Чыста па-пацанску ведае. І гэта яго заводзіць. Яму амаль шэсцьдзесят. Гэта палёт як ён ёсць. Вось вам. А такое не проста спараджае выбух у блогасферы. Яно рэальна выносіць блогасферы мозг... Геніяльна!»

Нарэшце, тут пабачылі фрагменты нейкіх культаў, напрыклад, антычных. «Пуцін — бусел з глыбіні стагоддзяў.Ператвараць самога сябе ў буйную птушку мог выключна Зеўс. Гэта сур'ёзная заяўка для Пуціна. Гэта не паэт і не «тварь дрожайшая». Гэта ўлада, грамабой. Калі Бога няма, дык амаль усё дазволена, а калі ты сам Бог — дазволена наогул усё», — піша блогер Natasha. Яна таксама дае прагноз наконт таго, у які касцюм апранецца ВВП бліжэйшым часам: «Зеўс любіў ператварацца ў вялікую рагатую жывёлу. Гэта ў прэзідэнта яшчэ наперадзе».

Самую цікавую версію прадставілі знаўцы старажытнай кітайскай міфалогіі: «Але паўстае пытанне — на што гэта? І тут мы ўспамінаем, што ў хроніках народаў старажытнасці жураўлі часта згадваюцца як прыродныя і лютыя ворагі карлікаў. Меў месца культ жураўлёў і ў Кітаі. У нататках кітайскага гісторыка VII стагоддзя гаворыцца, што да поўдня ад Дацынь (гэта значыць, Рымскай імперыі) знаходзіцца краіна карлікаў, дзе людзі ростам толькі каля 90 см. Калі карлікі апрацоўваюць палі, на іх нападаюць белыя жураўлі».

Адсюль робіцца рэзюме: «Такім чынам, Пуцін, які ўзносіцца ў нябёсы і ўзначальвае жураўліны клін, прэтэндуе на тое, каб вынішчыць карлікаў... але навошта?» Адказ знаходзяць хутка: «Мядзведзеў — агент карлікаў. Таму Пуцін становіцца героем і вядзе жураўлёў на татальную вайну. Бітва на Небе, бітва на Зямлі. Высновы і прагнозы занадта відавочныя, каб іх агучваць».

Вось такая жураўліная метафізіка. Усё гэта часткова нагадвае запойнае трызненне. Аднак нічога іншага, акрамя метафізікі, каб зразумець логіку ўчынкаў Пуціна, здаецца, не застаецца.

Можна толькі дадаць, што на форумах узнікла цэлыя фракцыя тых, хто лічыць, што магія Пуціна ў выпадку, калі ён уяўляў з сябе птушку, не спрацавала. Усё з-за таго, што прэзідэнту не далі дзюбу. Людзі не хаваюць эмоцый: «Аднак жа ўсё робіцца ў Расіі праз ж... Нават дзюбу не далі. Ну які журавель без дзюбы, скажыце мне калі ласка?»

РЭЗАНАНС

# НЕЗАЛЕЖНАЯ БАВАРЫЯ

Алег НОВІКАЎ

**Палітычным бестселерам у Германіі стала кніга, аўтар якой заклікае да стварэння незалежнай баварскай дзяржавы.**

Пра кнігу «Баварыя таксама здольная самастойна» («Bayern kann es auch alleine»), якую напісаў Вільфрэд Шарнагль (Wilfried Scharnagl), пачалі спрачацца яшчэ да таго, як яна пабачыла свет у сярэдзіне жніўня. Пра інтарэс да выдання сведчыць той факт, што выкладзеныя на старонках кнігі ідэі пракаментавалі на сайтах т.зв. «рускіх немцаў». Звычайна рэпатрыянты з Усходу не цікавяцца палітычнымі навінамі, надаючы перавагу прагляду рускіх серыялаў па спадарожнікавых антэнах.

Адно з выданняў рускіх немцаў піша: «На нашае ж сціплае меркаванне, гэта чыстай вады трызненне. Хутчэй за ўсё, хлопец вырашыў пад шумок падзарабіць грошыкаў, але ён не разумее, што некаторыя людзі на гэтай глебе змогуць стварыць рэальныя праблемы. А можа, аўтар папросту з'яўляецца фанатам мюнхенскай «Баварыі» і спадзяецца, што ў выпадку аддзялення зямлі Баварыя яго ўлюбёны клуб зноў стане чэмпіёнам, паколькі ў нямецкай Бундэс-лізе, ён ужо два гады прайграе тытул дортмундскай «Барусіі».

Рэцэнзія вельмі арыгінальная, хаця, з іншага боку, ілюструе, наколькі палітычна неадукаваны яе аўтар. Вільфрэд Шарнагль — вельмі аўтарытэтная асоба ў Баварыі, былы рэдактар «Bayernkurier» — газеты Хрысціянска-сацыяльнага саюза (CSU), вядучай рэгіянальнай партыі, партнёра Хрысціянска-дэмакратычнага саюза Ангелы Меркель. Наўрад ці такому чалавеку трэба «пад шумок падзарабіць грошыкаў».

Па-другое, заклік у абарону незалежнасці Баварыі гучыць далёка не ўпершыню. Нягледзячы на тое, што Баварыя як незалежная дзяржава знікла з мапы свету 141 год таму, у далёкім 1871-м, калі была заснаваная Германская Імперыя, баварскія незалежнікі заўсёды існавалі. Пры гэтым адметнай рысай іх сепаратызму была настальгія па часах дынастыі Вітэльсбахаў, якая закончылася ў часы нямецкай рэвалюцыі 1918-га. Нават незалежнасць у матэрыялах сепаратыстаў разглядаецца як сродак падтрымання хрысціянскага і кансерватыўнага парадку. Хаця апошнім часам тут таксама назіраецца інтарэс да праблемы экалогіі.

Галоўным лабістам лозунгаў за незалежнасць Баварыі ёсць створаная ў 1946 годзе Баварская партыя. Больш таго, пасля Другой сусветнай вайны баварскія сепаратысты лічыліся адной з самых уплывовых палітычных сіл у рэгіёне. На першых выбарах




у зямельны парламент яны атрымалі 17 працэнтаў галасоў. Толькі пасля стварэння ФРГ уплыў незалежнікаў пачаў падаць.

Часткова гэта звязана з тым, што партыя не змагла сфармаваць дэпутацкую групу ў Бундэстагу. Для праходжання ў федэральны парламент партыі, адпаведна канстытуцыі, трэба было сабраць на выбарах па ўсёй краіне больш за 5 працэнтаў. Баварская партыя збірала да 20 працэнтаў галасоў баварцаў, аднак у масе ўсіх выбаршчыкаў ФРГ гэтая лічба складала 4,2 працэнта. Спробы баварцаў сфармаваць з Нямецкай гановерскай партыяй нейкую агульную партыю сепаратыстаў — Саюз федэралістаў — не мелі вынікаў.

Напрыканцы 1950-х гадоў партыя пачала губляць папулярнасць у Баварыі. З 1966-га яна не прысутнічае ў зямельным парламенце. З пачатку 1976-га ў партыі нават пачаліся размовы пра самаліквідацыю структуры. Аднак у выніку Баварская партыя здолела ўтрымацца. Зараз яна карыстаецца падтрымкай 1–2 працэнтаў баварскага электарату, што дае ёй права на датацыі з бюджэту і, адпаведна, не дазваляе цалкам знікнуць.

На федэральным узроўні Баварская партыя нагадвае пра сябе выключна нейкімі кур'ёзамі. Так, калі ў 1990-м пачаўся працэс аб'яднання Германіі, баварцы заявілі, што канстытуцыя ФРГ ад 1949 года страціла моц. Такім чынам, фармальна, на іх думку, Баварыя зноў атрымала незалежнасць. У 2010 годзе баварцы сталі адзінай партыяй, якая выступіла супраць забароны палення ў кафэ, паколькі гэта, быццам, супярэчыць баварскім прынцыпам гасціннасці.

Сёння тэма баварскага сепаратызму зноў перастае ўспрымацца як нейкі жарт. Прычына — крызіс. Як і паўсюль у Еўропе, сярод бюргераў становіцца папулярным тэзіс пра тое, што нехта сядзіць у іх на шыі. Пасля Шатландыі, Бельгіі, Іспаніі мода на сепаратызм дакацілася да Альпаў.

Матэматычную падставу для такіх настрояў прапануе ў сваёй кнізе Шарнагль. Па словах аўтара, Баварыя заганяе сябе ў невыгоднае становішча, паколькі павінна кожны год амаль тры з паловай мільярда еўра «аддаваць менш паспяховым землям Германіі». А апроч Берліна, Баварыю яшчэ і рабуе Брусэль, каб неяк уладзіць фінансавыя справы ў Еўрасаюзе. Шарнагль перакананы, што Баварыя, атрымаўшы статус незалежнай дзяржавы, без праблем не толькі самастойна выйдзе з крызісу, аднак і ператворыцца ў адну з вядучых дзяржаў Еўропы.

Пражэкты Шарнагля выклікалі самую гарачую падтрымку ў асяроддзі нямецкіх гумарыстаў. Яны хуценька пачалі апісваць паўсядзённы побыт будучай незалежнай Баварыі: жаўнеры ў скураных шортах, абменнікі, дзе можна памяняць еўра на баварскі гульдэны, праблемы немцаў, якія не могуць атрымаць баварскія візы, каб пабачыць футбольны матч Германія — Баварыя, дыпламатычныя канфлікты з Бразіліяй, Босніяй і Герцагавінай ды Беларуссю з-за таго, каму ў інтэрнэце павінна належаць пашырэнні «br» , «ba» і «by» і г.д.

Аднак хапае і тых, каму не смешна. Так, уплывовае выданне «Focus» адзначае, што забаўная кніга пра баварскую дзяржаўнасць здольная ўнесці новыя тэмы ва ўнутраную дыскусію ў CSU і ў выпадку працягу крызісу ў Еўразоне пераарыентавацца на гэтую тэму. Аўтар публікацыі нагадвае, што сам CSU знаходзіцца ў самым вялікім за часы сваёй гісторыі крызісе і, магчыма, па выніках выбараў у наступным годзе ўвогуле ўпершыню страціць уладу ў рэгіёне. У стане разгубленасці і страты стратэгічных прыярытэтаў, на думку журналіста, не выключана, што партыя пачне какетнічаць з сепаратысцкімі канцэпцыямі і лозунгамі канфедэралізацыі Германіі.

У сваю чаргу, хапае і скептыкаў апісанага сцэнару. На іх думку, Еўропа, хутчэй за ўсё, выйдзе з крызісу як больш цэнтралізаваная структура (прынамсі пакуль назіраецца такі працэс). У такім выпадку дзяржавы-сябры ЕС перададуць шмат функцый Брусэлю і паступова стануць падобнымі на простыя рэгіёны, накшталт той жа Баварыі ў складзе ФРГ. Баварскі нацыяналізм папросту страціць актуальнасць. Не кажучы пра тое, што пакуль галоўным рухавіком баварскага нацыяналізму выступае Грэцыя, якая просіць новыя датацыі ў той жа Германіі. Таму галоўнае патрабаванне баварскіх бюргераў, хутчэй, — не незалежная Баварыя, а выключэнне Грэцыі са складу ЕС або зоны еўра.

Як бачым, кніга Вільфрэда Шарнагля пакуль далёкая ад таго, каб быць сапраўдным маніфестам баварскага незалежнага руху. Аднак не выключана, што яе чакае другое перавыданне, калі ўвосень 2014 года шатландцы на рэферэндуме прагаласуюць за выхад краю са складу Вялікабрытаніі. Тады чытаць разважанні Шарнагля дакладна будуць без усмешак і больш уважліва. Магчыма, нават і рускія немцы.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### АЛЕГ ЛЯШКО



Лідара ўкраінскай Радыкальнай партыі злыя языкі абвінавачваюць у латэнтным гомасэксуалізме. Было б дзіўна, калі б цяперашнія парламенцкія выбары ва Украіне абышліся без спроб палітыкаў завязваць, што на іх быў зроблены замах. Першай ахвярай замаху стаў Алег Ляшко. Па яго словах, праціўнікі радыкалаў з партыі ўлады спрабавалі яго атруціць. Ляшко распавёў, што ў апошні момант атручаны напой выпадкова выпіў Юры Сухін, намеснік кіраўніка радыкалаў. Цяпер Сухін ляжыць у шпіталі з паралізаванай часткай твару, а яго бос набірае піяр-пункты на гэтай таямнічай гісторыі. Між тым, ужо з'явілася альтэрнатыўная версія хваробы Сухіна. Як распавяла журналістам сяброўка пацярпелага, пасля партыйнай вечарынкі Алег Ляшко заляцаўся да Юрыя Сухіна, што прывяло да псіхалагічнай траўмы апошняга, а праз некаторы час і да фізічнай хваробы на нервовай глебе. Між тым, на днях у Кіеве адбыўся новы напад на аднаго з лідараў радыкалаў. Невядомыя нанеслі яму 9 нажавых удараў. На гэты раз Ляшко не сказаў, што ўдары былі адрасаваныя яму.

### ЮЛІУС МАЛЕМА



Юліус — былы кіраўнік моладзевага крыла кіруючай партыі Афрыканскі нацыянальны кангрэс (ANC). У мінулым годзе яго сяброўства ў партыі было часова прыпынена з-за правакацыйных заяў супраць белай меншасці і заклікаў да нацыяналізацыі прадпрыемстваў горнай індустрыі. Дысцыплінарныя санкцыі супраць радыкала быццам астудзілі яго рэвалюцыйны настрой. Ён з'ехаў у Венесуэлу вывучаць прававыя аспекты нацыяналізацыі. Аднак цяпер Юліус зноў з'явіўся на першых палосах газет Паўднёвай Афрыкі. Пасля таго, як паліцыя расстраляла маніфестацыю шахцёраў у Марыкане ў жніўні, Малема арганізаваў тур па шахтах краіны, заклікаючы гарнякоў да агульнага страйку. Яшчэ больш небяспечны аспект для эліты звязаны з тым, што ў снежні адбудзецца з'езд ANC, і вялікая частка сяброў партыі бачыць у Малеме альтэрнатыву цяперашняму ўмеранаму партыйнаму кіраўніцтву. Фракцыя Малемы не хавае намераў адправіць у адстаўку Якаба Зуму (цяперашняга старшыню партыі і прэзідэнта Паўднёвай Афрыкі) і навязаць кангрэсу радыкальную праграму накшталт ідэі поўнай экспрапрыяцыі ўласнасці ў белых, як гэта было зроблены ў суседняй Зімбабве.

### РЫК ФАЛЬКВІНГ



Рык — заснавальнік шведскай Пірацкай партыі, якая стала першай партыяй аматараў вольнага софту ў свеце. Пасля падобныя партыі ўзніклі практычна ў кожнай краіне, у тым ліку ў Германіі, дзе «піраты» прысутнічаюць у чатырох зямельных парламентах і маюць някепскія шансы трапіць у наступным годзе ў бундэстаг. Аднак цяпер тыя шансы выглядаюць не так бліскуча. Справа ў тым, што бацька ўсіх піратаў публічна заклікаў да легалізацыі дзіцячай парнаграфіі. У шведа такая аргументацыя: за падобныя матэрыялы павінны несці адказнасць не тыя, хто іх захоўвае, а вытворцы. У дадатак цэнзура ў інтэрнэце парушае правы на свабоду. Скандальная заява выклікала шок у ФРГ, дзе «піраты» спяць і бачаць сябе ўладальнікамі дэпутацкіх мандатаў. Зразумела, што падобныя выхадкі могуць каштаваць ім рэйтынга, які і так за год паменшыўся з 12 да 7 працэнтаў. Таму нямецкія піраты дружна пачалі браць дыстанцыю ад фігуры Рыка. Бернд Шлёмер, старшыня «піратаў» ФРГ, патрабаваў, каб шведскі калега змяніў свой падыход да згаданай праблемы.

▶ 17 ВЕРАСНЯ

# ВОСТРЫЯ ГРАНІ ВЫЗВАЛЕННЯ

## САВЕЦКІЯ ГАЗЕТЫ 1939 ГОДА ПРА «ВЫЗВАЛЕНЧЫ ПАХОД ЧЫРВОНАЙ АРМІІ Ў ЗАХОДНЮЮ БЕЛАРУСЬ»

Ігар МЕЛЬНІКАЎ,
кандыдат гістарычных навук

**Гісторыя ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР у верасні 1939 года да сённяшняга дня выклікае шмат спрэчак сярод айчынных і замежных гісторыкаў. Трэба канстатаваць, што і зараз не праведзены глыбокі аналіз усіх першакрыніц па гэтай тэме. Напрыклад, асаблівую цікавасць выклікае тое, як падзеі «вызваленчага паходу» апісвала савецкая прэса.**



ПРАВДА
СЕГОДНЯ В НОМЕРЕ
ДРУЖБА И БРАТСТВО НАРОДОВ СССР
ОПЕРАТИВНАЯ СВОДКА ГЕНЕРАЛЬНОГО ШТАБА РККА
БОЕВОЙ ДУХ СОВЕТСКИХ ВОЙСК



Völkischer Beobachter
Böhmen und Mähren wieder im Reich
Großdeutschlands Soldaten hißten Hakenkreuzbanner auf der Prager Burg
Staatspräsident Hacha legt das Schicksal des tschechischen Volkes in die Hände des Führers
Proklamation Adolf Hitlers an das deutsche Volk

...Раніцай 18 верасня 1939 года чытачы вядучых нямецкіх газет на першых старонках выданняў убачылі матэрыялы, прысвечаныя ўступленню Чырвонай Арміі ва Усходнюю Польшчу. Газета «Фёлькішэр беабахтэр» на перадавіцы апублікавала артыкул «Новы закон Усходняй Еўропы». У матэрыяле, у прыватнасці, адзначалася: «Мы бязмежна вітаем дзеянні Масквы, якая абапіраецца на кроўную сувязь паміж насельніцтвам Усходняй Польшчы і з памежным з ім насельніцтвам саюзных рэспублік Беларусі і Украіны». Ужо на наступны дзень рэзюмэ гэтай і іншых нямецкіх публікацый з'явіліся ў «Праўдзе». У адносінах паміж Берлінам і Масквой наступаў кароткі «мядовы месяц».

Пачынаючы з 17 верасня 1939 года старонкі буйных савецкіх перыядычных выданняў стракацелі паведамленнямі пра тое, як насельніцтва Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны радасна сустракае сваіх «вызваліцеляў» з Усходу. Аднак, як ні імкнуліся надаць яркіх фарбаў гэтай падзеі савецкія журналісты, ім даводзілася канстатаваць, што на захад ад Мінска ўсё ж ідзе вайна. Вось як на старонках «Праўды» апісваў пачатак «вызваленчага паходу» адзін з яго ўдзельнікаў: «На досвітку 17 верасня наша частка падышла да мяжы, адкрыла вароты драцяных загарод і прайшла памежныя рубяжы. На пагорку мы атакавалі польскі памежны кардон. Удалося захапіць у палон аднаго польскага салдата і капрала. Чырвоная Армія хутка прасоўваецца наперад». «Камсамольская праўда» таксама публікавала ўражанні чырвонаармейцаў, якія пераходзілі мяжу з Польшчай 17 верасня: «Палякі, убачыўшы нас, адкрылі агонь з вокнаў стражніцы. Мы кінуліся ў атаку з гранатамі ў руках. Ішлі прама ў лоб. Мне ўдалося падбегчы да самага акна заставы і кінуць у яго гранату. Больш ніхто не страляў. Некалькіх палякаў мы ўзялі ў палон...»



Збіты польскі самалёт



Бой блізу Гродна

Агрэсія супраць Польшчы, насуперак чаканням савецкага кіраўніцтва, не стала лёгкай прагулкай для Чырвонай Арміі. Безумоўна, польскіх войскаў на тэрыторыі заходнебеларускіх ваяводстваў Другой Рэчы Паспалітай было мала. Большасць баяздольных частак і палкоў перад самай вайной былі перакінуты на захад краіны. Але тыя падраздзяленні, якія заставаліся на «крэсах», у большасці сваёй аказалі супраціў Чырвонай Арміі. Напрыклад, не проста прыйшлося чырвонаармейцам у баях пад Пінскам, дзе, як адзначаў журналіст «Камсамольскай праўды», «польскія кавалерысты спрабавалі акружыць савецкія часткі». Жорсткія баі Чырвонай Арміі давялося весці на подступах да Скідзеля. Адным са сведкаў тых падзей быў карэспандэнт «Праўды», які адзначаў, што польскія салдаты не проста ўмацаваліся, але і знішчылі пераправу. Савецкім танкістам давялося пераправіцца праз раку пад градам куль. Некалькі савецкіх танкаў было падбіта.

Асаблівай увагі заслугоўваюць баявыя дзеянні савецкай авіяцыі ў небе над Заходняй Беларуссю. Некаторыя «подзвігі» «сталінскіх сокалаў» кідаюць у дрыжыкі. У кастрычніку 1939 года ў «Праўдзе» былі апублікаваныя ўспаміны лётчыкаў Беларускага фронту. Прызнаюся, калі б не ведаў, каму належаць гэтыя рэляцыі, падумаў бы, што іх аўтары — пілоты нацысцкага люфтвафэ. Вось адна з іх. «Савецкія войскі падыходзілі да горада Кобрын з боку станцыі Баранавічы. Палякі вырашылі перашкодзіць нашаму прасоўванню і абараніць горад. Праціўнік адправіў з Пінска ў Кобрын буйныя падмацаванні.

Наша звяно ішло першым. Перад станцыяй Гарадзец камандзір пакруціў крыламі сваёй машыны. Гэта азначала: «прыгатавацца». Я перазарадзіў кулямёт, адкрыў прыцэл і спікіраваў на воінскі эшалон, які стаяў на станцы.

Не паспелі абстраляць адзін эшалон, як сустрэлі другі і з вышыні 400 метраў навалiлiся на яго. З дахаў і з вокнаў вагонаў праціўнік адкрыў па нас ружэйна-кулямётны агонь. Мы зайшлі ад паравоза і прайшлі брыючым палётам да хваста цягніка, паліваючы яго свінцовым даждждом. Я ішоў апошнім і бачыў, як ад нашых трапленняў выбухнуў паравоз.

Станцыя Драгічын. На рэйках 6 воінскіх эшалонаў. На пероне мітусяцца людзі. Зноў абстрэльваю эшалоны, затым бярэм курс на Баранавічы. Абстраляныя намі эшалоны гараць, людзі разбягаюцца».

Чытаеш — і ўяўляеш той жах, які адбываўся тады на атакаваных савецкімі самалётамі заходнебеларускіх станцыях. Трэба ўлічваць тое, што «сталінскія сокалы» па сутнасці дапамагалі гітлераўцам. У перыяд з 14 па 17 верасня 1939 года зводныя падраздзяленні 82, 83, 84, 79 і іншых польскіх палкоў на подступах да Кобрына з апошніх сіл стрымлівалі атакі танкавых частак вермахта пад камандаваннем Хайнца Гудэрыяна. Падраздзяленні Войска Польскага, якія выехалі з Пінска, павінны былі ўмацніць польскі гарнізон гэтага горада, але на шляху польскіх воінскіх эшалонаў апынуліся самалёты з чырвонымі зоркамі на крылах...

І як можна трактаваць усе гэтыя дзеянні савецкага боку? З зямлі і паветра атакуюцца польскія вайсковыя і цывільныя аб'екты. Войскі іншай дзяржавы захопліваюць гарады і мястэчкі? І ўсё гэта камуфлюецца пад нейкую вызваленчую, як цяпер модна казаць, міратворчую місію. Насамрэч адказ просты. Тады ў Заходняй Беларусі ішла сапраўдная вайна.

Ужо ў першыя дні «вызваленчага паходу» ў Мінску з'явіліся польскія ваеннапалонныя. Як адзначалі савецкія газеты, гэта былі ў асноўным афіцэры, прычым многія з іх у свой час служылі ў рускай імператарскай арміі і нядрэнна гаварылі парыску. Эшалонаў з палоннымі прыбывала ўсё больш і больш. Шмат хто з гэтых людзей праз паўгода скончыць сваё жыццё ў Катыні, Медным, Харкаве ці ў Курапатах пад Мінскам. Іншыя папоўняць шматмільённую армію зняволеных ГУЛАГу, каб потым у 1941 годзе ўступіць у войска генерала Андэрса і змагацца з нацыстамі на захадзе. Але пакуль усе гэтыя людзі, яшчэ да канца не ўсвядоміўшы трагічнасць сітуацыі, у якой яны апынуліся, працягвалі верыць у тое, што неўзабаве іх адпусцяць, бо Савецкі Саюз не знаходзіцца ў стане вайны з Польшчай. З краінай, якая была іх радзімай і якая па змове дыктатараў знікла з карты Еўропы.

Вось толькі некаторыя грані «вызваленчага паходу Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь», якія знайшлі сваё адлюстраванне на старонках тагачаснай савецкай прэсы. Ужо праз некалькі месяцаў, пасля заканчэння вераснёўскіх падзей 1939 года, польская тэматыка знікне са старонак савецкіх газет і будзе толькі зрэдку з'яўляцца ў выглядзе карыкатур на польскі эміграцкі ўрад. Падзеі тых дзён да сённяшняга часу не да канца вывучаны гісторыкамі, і кожны новы факт з гісторыі 17 верасня 1939 года дапамагае нам ліквідаваць прабелы ў гістарычным мінулым сваёй краіны.



Западная Белоруссия, район гор. Гродно. Красноармейцы читают газету пленным польским солдатам. Фото П. Лидова.

УСПАМІНЫ

# ШКОЛЬНАЯ ПАРА. ПАЧАТКІ

**Арсень ЛІС**

**Заканчэнне. Пачатак у №№ 32–34**



Арсень Ліс. Пачатак 90-х

Вайна прымушала народ пакланіцца ў ногі рамёствам і прамысловай самадзейнасці. Яны дапамагалі выратавацца не столькі ад голаду (зямля, дзякаваць Богу, не перастала радзіць хлеб), як ад нястачы шмат чаго патрэбнага ў гаспадарцы — мыла, солі, абутку ды адзетку. Зрэшты, з апошнімі неяк давалі рады: ткалі, выраблялі скуру, шылі.

Бацька, як і ў даваенны час, калі куплялася зямля, побач з апрацоўкай яе, узяўся за сталяраванне, стаў рабіць санкі на продаж. Справіцца з гэтым рамяством цяпер было яму лацвей — знайшоўся памочнік. Быў ім Пётр Даброў, з палонных чырвонаармейцаў, адзін з дзясятку былых байцоў, што да часу прытуліліся ў вёсцы. Толькі адзін з іх, што быў у Гаварнёвых, пазней сышоў у партызаны. Па вайне прыязджаў у адведзіны. Астатнія ж, у тым ліку і наш Пятрок і суседскі Шыманоў Дзімітра, галасісты, спеўны ўкраінец, дасядзелі пры гаспадарах да прадвесня 1944 года. Аднае раніцы, немцы, прыйшоўшы з ручным кулямётам, сабралі іх па аднаму з усёй вёскі, каб адправіць у Германію. Нечага пэўнага пра далейшы лёс іхні нельга было даведацца. Адно можна сказаць з пэўнасцю: палонныя, якім удалося вырвацца з лагера на пачатку вайны, здолелі прадоўжыць сабе жыццё, прынамсі на нейкі час. Бо тое, што рабілася ў нямецкіх лагерах для савецкіх палонных, навочна маглі пераканацца нават людзі ціхай нашай залескай ваколіцы. Непадалёк ад станцыі, у фундаментальным чыгуначным доме з чырвонай цэглы, акружыўшы яго дратамі, немцы зрабілі лагер.

Хатамі збіралі, хто што мог. Варылі вёдрамі скваraны булён, у складчыну пяклі хлеб і адвозілі ў лагер.

Да цабэрка на возе, які пад'язджаў пад лагерную браму, з-за дротаў сквапна цягнуліся рукі з салдацкімі кацялкамі, алюмініевымі місачкамі. Ідучы ў школу, і я разы два быў пры гэтым прывозе харчоў, сабраных вётхавічанамі. У іншыя дні была чарга іншых вёсак. Лагер у Залессі, праўда, скора зліквідавалі. Казалі, перавялі ў Маладзечна, дзе былі да вайны польскія казармы. Па вайне ў тым доме адкрылася чыгуначная руская школа. Але і праз гады, праходзячы міма гэтай прыкметнай будыніны, часам адчуеш, як нібы глянуць табе проста ў душу з-за калючай драцянай агароджы тыя жальбінныя сумныя вочы. Шмат воч. Толькі ў гады перабудовы даведаўся жахлівую лічбу: немцамі было палонена на пачатку вайны тры мільёны семсот тысяч байцоў і афіцэраў Чырвонай Арміі. Большасць з іх прайшло сваю Галгофу ў нямецкіх лагерах. Ці не большасць там і загінула.

Пачатак лета 1944 года, як на мой цяперашні розум, а не колішняе пачуванне дзесяцігадовага хлапчаняці, быў трывожны.

Немцы, пад якімі давялося жыць-бытаваць тры гады, былі на адыходзе. Помніцца, бацька з бліжэйшымі суседзямі ў нашай хаце разважалі, як быць, што чыніць. Прыгадвалі словы заблукалага ў вёску старога нямецкага салдата, які казаў: «Прасіце Бога, каб мы ўцякалі без шапак, а то загадаюць перад адыходам паліць...» «Калі і спаляць, — разважалі мужчыны, — з пасеянага ды пасаджанага ў зямлі нешта ж застанецца». Не ў свет жа падавацца. Ды куды? На калёсах, як у першую сусветную бацькі і дзяды?.. Маці тым часам упраўлялася ў гародзе з градамі, палола. Зрэдку трымаўся каля яе і я. Помніцца, не раз ад захаду раптам нарастаў гул матораў, разлягаўся на ўсё неба. Стаямі адна за адной ляцелі на ўсход самалёты. На рудаватых баках (фюзеляжах) віднеліся чорныя крыжы. Адвячоркам, летучы зусім нізка, вярталіся тыя — не тыя самалёты назад і грукатроў іх прыгнятаў, прыгінаў да зямлі, прымушаў унурыцца ў баразну-разору.

Гэтым часам бацька на другі бок вуліцы, за садам, дзе ўжо красавала, налівала колас жыта, выкапаў схоў-акоп. Туды перанеслі сякія-такія рэчы, нешта з яды. Надвячоркам, калі мы з бацькам вярталіся са сваёй схованкі да хаты, міма нашай сядзібы бясшумна праскочыла адкрытая легкавушка з людзьмі ў вайсковай нямецкай форме. Бацька адразу падаўся назад, у жыта. Я ж, згледзеўшы, што машына спынілася ля суседзяў, Шымановых, і што да яе падышлі жанкі, пазіраў здалёк, як будзе далей. З машыны выйшаў афіцэр, без фуражкі. Мусіць, папрасіў напіцца, бо суседка заспяшалася ў хату і хутка выйшла з кубкам і збанком у руках. Я асмялеў і падышоў да купкі жанчын, якім вайсковец нешта казаў. Усяго ў легкавушцы іх было трое. Два заставаліся сядзець, а той, што гаварыў з жанчынамі, раптам вышчыпнуў з куста ліповы лісток і кавалачкі яго паклаў на далоні насупраць пальцаў. Жанчыны зразумелі, што тлумачыць, як шляхі ім, уцекачам, адрэзаны. На адных — партызанэн, на другіх русішэ золдатэн...

Зрэшты, нечаканыя чужнікі, як ураз наскочылі, так хутка і ад'ехалі: мусілі спяшацца.

Тым часам хто дзе адкуль паказаліся на вуліцы і нашы мужчыны. Некаму здалося было, ці не паліць наша Вётхава тыя немцы прыскочылыя былі. Надыходзіў вечар, сутонне. Здалёку пачаў даносіцца глухі гул артылерыйскай кананады. Дзесь далёка з боку Маладзечна ў неба падымаўся чорны дым, — нешта гарэла. Мы вырашылі нанач не заставацца дома. Пачалі перабірацца да рэчкі ў надзеі схінуцца пад яе высокім адхонам-берагам. Можа, адразу і не звярнулі ўвагу, што на станцыі, да якой напрасткі ад нашай вёскі было з кіламетр, чуўся нейкі хапатлівы рух. Ці то скідалі дошкі з платформаў, ці нейкі іншы груз: нешта з трэскам валілася на зямлю. Відаць, вызвалялі патрэбныя для ад'езду вагоны.

Затым раптам застракаталі кулямётныя ці аўтаматныя чэргі, пачуліся асобныя стрэлы, усчалася бязладная страляніна на станцыі.

На тую хвіліну бацька з маці і меншым маім брацікам паспелі спусціцца ў лог, да рэчкі, куды кулі, пасвістваючы ўгары, не даставалі. Мяне ж на самым ускрайку загона з канюшынай прытрымаў конь, якога я вёў. Ён раптам хапатліва накінуўся на сакавітую траву канюшыну край поля, не даваўся сцягнуць яго ў нізіну, да рэчкі.

— Кідай каня, — крыкнуў мне бацька. — Зараз жа кідай каня! Удараўшы па мызе ўпартай жывёліны павадком, мне такі ўдалося сцягнуць яе ў небяспечнае месца.

Кулі не перастававалі ціўкаць, трасіруючыя ж значылі ў паветры свой вогненны след і, абяссілена, на нашых вачах падалі долу.

— Падпаляць яны сёння наша Вётхава, — казаў бацька, выглянуўшы ўверх з-пад высокага берагу рэчкі, дзе мы стаіліся ў чаканні невядомага.

Тым часам страляніна, як раптам усчалася, так неўзабаве і аціхла. Яе ўзняла, грузячыся ў вагоны, нямецкая салдатня на станцыі.

Пальнулі немцы, не шкадуючы патронаў, у тым ліку і запальнымі кулямі. Але вёска наша не загарэлася. Мусіць, заступіў, абараніў яе лясок, што аддзяляў, прыкрываў нашы сядзібы ад станцыі.

Раніцай было ціха і ясна. Не дачакаўшыся, пакуль збярэцца бацька, я памчаў у вёску паглядзець, як там пасля пальбы ў наш бок са станцыі асталася стаяць наша хата.

Пэўна, ужо назаўтра на вялікіх машынах (студэбекерах) у вёску ўехала і спынілася чырвонаармейская часць. За памяшканне пад штаб была выбрана наша хата, хоць у Вётхаве, здаецца, былі і пагляднейшыя за нашу. Мы сям'ёй пацясніліся: балазе, быў для гэтага свіран. Нанач вокны зацямняліся. Для гэтага на іх навешваліся маты: вайскоўцы працавалі і ноччу. Бацька пазней казаў, што ў нас зкватаравала спецыяльная прыфрантавая адзінка. Яна атрымлівала звесткі страт на фронце, пасылала адпаведную зводку «куды трэба». З адным з вайскоўцаў, што быў пры штабе, бацька нейкі час перапісваўся. Казаў, што той сібірак, мае вышэйшую цывільную адукацыю. Мне запомніўся прыгожы почырк яго пісьмаў.

Памятаю, ці не ў першы дзень заезду байцоў да нас, нада мною схіліўся адзін, ласкава абняўшы за плечы і, паглядаючы прама ў вочы, пытаўся, ці верылі вы тут, што мы вернемся? «Не знаю», — шчыра прызнаўся я. — «А родители?» — далей пытаўся, мабыць, то быў афіцэр. «Бацька можа і знаў, але не казаў», — шчыраваў я, на той час дзесяцігадовы хлапец.

Тым часам у нас ужо было ціха. Фронт неяк няўзнак абцёк нашу ваколіцу, пакаціўся на захад. Праўда, часам, здаралася, істрабкі з мясцовых, якім новая ўлада дала зброю, лавілі паасобных, адсталых ад адышоўшых немцаў, кінуўшых зброю ваякоў. Адзін з немцаў, прыйшоўшы да крайняй хаты, не слухаўся каманды «halt!», стаў уцякаць. Іван Гаварэнчык гнаўся за ім аж да рэчкі і там застрэліў яго. Жанчыны шкадавалі: маўляў, матка недзе чакала сына. Мне здавалася неапраўданым тое шкадаванне.

Нехта са старэйшых хлопцаў падаў думку адведаць нашу першую школу. Мінула ўжо, пэўна, тры гады, як нас з яе вытурылі немцы, і ад таго часу мы не маглі туды трапіць. Аднаго дня, не адкладаючы на далей, мы вераб'інай стайкай фыркнулі на станцыю, а там — да школы. Убачылі яе абнесеннай навокал гароднягй — высокім двухполым зрубам, запоўненым шырокім пластам пяску. Узводзілася ж гароднія немцамі ў надзеі схову-абароны іх пры выпадку нападу партызан. А нападу таго і не здарылася. Знойдзеныя намі трафеі ў міжсценніку гародні былі марныя — пару жменяў патронаў. Праўда, потым мы з іх усмак пастралялі, простым спосабам, без вінтоўкі. Рабілі так: даставалі кулю, адсыпалі з патрона частку пораху, заганялі кулю на вызваленае месца ў сам патрон. Патрон з падпаленым пасасталым у ім порахам патрасаўся ў руцэ, каб роўна ішло гарэнне. Праз некалькі секунд раздавалася не вельмі гучнае бахание — куля пакідала патрон. Прыносіла тая «стральба» — яна ладзілася намі звычайна наднаселлю, ля дубовых пнёў на Букараве, — немалую пацеху. Бацькі пра тое не ведалі, а калі мой тата дазнаўся, абураўся, казаў, што магла быць тая грыдня-гароднія замінаваная і мы маглі падарвацца, не дай Бог, загінуць...

Неўзабаве першага верасня я з сябрамі ўжо чацвёртакласнікам вяртаўся ў родныя школьныя сцены, дзе пачынаў навуку першаком. Чацвёртакласнікаў у нас набралася аж два класы. Сталася так з-за таго, што старшакласнікаў, пачынаючы ад пятага класа, адпаведна і вышэй — шостага, сёмага на клас адсаджвалі назад. Як цяпер разумею, з-за ідэалагічных меркаванняў. Афіцыйна палічылі навучанне за час акупацыі неадэкватным. У старэйшых класах быў там, здаецца, урок накшталт сучасных заняткаў па палітінфармацыі.

У выніку такіх пертурбацый мы з браценікам Колем Будвісам, хоць ён, будучы старэйшым за мяне, ужо скончыў чатыры класы, апынуліся ў адным, чацвёртым.

Я пачаў вывучаць рускую мову. Спачатку ішло тое не вельмі, хоць з рускай літаратуры я ўжо дзе-штосьць трохі чытаў. Ад старэйшага бацькавага брата, дзядзькі Івана, які вучыўся ў рускай гімназіі, заставалася крыху кніг рускай класікі.

А вось стаў пісаць — і на дошцы ў слове «горяч», ішлося пра чай, гарбатку, зрабіў аж дзве памылкі. Уцяміўшы, што ў рускай мове гук літары «р» гучыць мякка, іначай, чым у нас, зрабіў ляпсус, пацешыўшы настаўніка. Робячы пісьмовы пераказ, у тэксце замест слова «вдруг» уляпіў нечаканае «раптам». Былі і далей праблемы з так званымі «безударными гласными».

Галоўнай тэмай падзей 1945 года было, вядома, заканчэнне вайны, перамога. Мы яе таксама святкавалі ў школе, глядзелі дакументальны фільм пра вайну, першы для ўсіх нас, падлеткаў. Я быў прыняты ў піянеры, неяк вылучаны тым, што абралі, ці, дакладней, прызначылі начальнікам штаба атрада піянераў залескай сямігадовай. У іпастасі паспяховага вучня і піянерскага важака ўлетку трапіў на абласны піянерскі злёт у Вілейку. Першы, так бы мовіць, выхад у свет, самастойная паездка ў горад. Запомнілася з той вандроўкі няшмат.

Самавітыя мужчыны за сталом на сцэне. Выступалі, прамаўлялі. Пры канцы выклікалі па аднаму на сцэну нас, блазноту. Маладая стройная жанчына, сакратар Маладзечанскага абласнога камітэта ЛКСМБ Серабракова, уручала нам падарунак — кнігу і паціскала руку. Я, прызнацца, быў расчараваны падараванай мне кніжкай, хоць ужо палюбіў і па-свойму цаніў гэты бясцэнны дар чалавечай цывілізацыі. Узнагародзілі мяне ладным томам «Валерий Брюсов. Избранные стихотворения». Я слабаўцямна слізгаў па халаднаватых ад высокага розуму творцы радках яго паэзіі.

Нешта як бы пачыналі мне гаварыць, ва ўсякім разе запаміналіся радкі паэтавага верша «Юнаму паэту»:

*Юноша бледный со взором горящим!*
*Ныне даю я тебе три завета.*
*Первый прими: не живи настоящим,*
*Только грядущее — область поэта...*

Натуральна, толькі праз гады зразумеў, што дзеля памяці аб падзейным дні ў жыцці малога было ўручана яму, (мне) самавітае выданне заснавальніка рускага сімвалізму, аўтарытэтнага ў гісторыі літаратуры яго прадстаўніка.

Зразумела, зроблена тое было без уліку ўзросту чытача, атрымальніка кнігі, — на выраст. Але колішняе засмучэнне з нагоды, што нехта побач атрымаў кніжку цікавейшую, было неапраўданым. Дарунак быў паважны — на будучыню. Яна ўся яшчэ была наперадзе.

ФАКТ

# ВІНАВАТЫ Ў АНТЫКАЗАХСТАНІЗМЕ

Андрэй РАСІНСКІ

**Расійскага рэжысёра Цімура Бекмамбетава, ураджэнца і гадаванца Казахстана, землякі выкрылі ў «антыказахстанскіх» і «антырасійскіх» дзеяннях за фільм, які мусіць з'явіцца.**

Сцэнарысты Жайык Сыдыкаў і Мухамед Мамырбекаў у адкрытым лісце скардзяцца, што рэжысёр «цынічна і нахабна» будуе сюжэт паўторных «Джэнтльменаў удачы» вакол выкрадання казахстанскай рэліквіі — «Залатога ваяра».

«Выкарыстанне вобраза Залатога ваяра ў камедыйных абставінах мы лічым непрыхаваным здзекам з нашай краіны, так што Казахстан рызыкуе атрымаць цяпер ужо расійскі варыянт Бората», — тлумачаць падпісанты

Рэакцыя Расійскага Саюза кінематаграфістаў, куды быў скіраваны ліст, пакуль не вядомая.



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
Кароль Аляксей Сцяпанавіч

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК:** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ:** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА:**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. (+375 29) 651 21 12, (+375 17) 268 52 81.
novychas@gmail.com; www.novychas.org

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.

Замова № 925

Падпісана да друку 14.09.2012. 8.00.
Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая.
Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.